● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

31 кастрычніка 1996 г. чацвер, № 260 (23063)

# ЗВЯЗДА

## ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...

### ... Мінск не забяспечваецца мяснымі паўфабрыкатамі

**У апошні час, што добра відаць на паліцах у магазінах, значна пагоршылася забяспячэнне сталіцы мяснымі паўфабрыкатамі.**

На думку спецыялістаў Міністэрства гандлю, невыкананне заявак горада на пастаўкі гэтай прадукцыі тлумачыцца найперш адсутнасць сыравіны. У патрэбных аб'ёмах зараз у Мінск паступаюць толькі ялавічына і мяса птушкі, перабоі адчуваюцца ў забеспячэнні свінінай і паўфабрыкатамі. Праўда, неадназовыя звароты міністэрства ў шэраг зацікаўленых ведамстваў прынеслі свой плён: апошнім часам пастаўкі іх актывізаваліся. Іншай прычынай, называюць гаспадарлівасць калгасаў, якія ахвотней прадаюць мяса камерсантам, у тым ліку і з Расіі, чым айчынным мясакамбінатам.

Крыху іншага пункту гледжання на гэты конт прытрымліваюцца ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання. У прыватнасці, як лічыць начальнік упраўлення экспарту, імпарту і ўнутрырэспубліканскіх паставак Рыгор Зубкевіч, сапраўды, разам з нежаданнем гаспадарак (якія чакаюць павелічэння закупачных цэн) здаваць мяса, назіраецца таксама звычайная неразваротлівасць многіх кіраўнікоў сталічных перапрацоўчых прадпрыемстваў.

У якасці прыкладу сапраўднай гаспадарчасці Рыгор Пятровіч назваў гродзенскі, ваўкавыскі, магілёўскі, бабруйскі мясакамбінаты, якія самастойна і вельмі настойліва шукаюць сыравіну.

Нярэдка яны нясуць пэўныя страты, набываючы мяса на 1,5 тысячы даражэй, але загружаюць свае магутнасці і потым (парадокс!) забяспечваюць, скажам, каўбасамі Мінск. «Кіраўніцтва ж мінскага мясакамбіната лічыць за лепшае марнаваць час у чаканні пастаўшчыкоў», — зазначыў Рыгор Зубкевіч.

Дарэчы, існуе і яшчэ адна праблема — фінансавая. З эканамічнага пункту гледжання сёння гаспадаркам больш выгадна здаваць мяса на халадакамбінаты, дзе за кілаграм плацяць 24.000 рублёў, чым на мясакамбінаты, дзе выручка складае ўсяго 20.600 рублёў. Дарэчы, гэтая акалічнасць дазволіла мінскім халадакамбінатам № 1 і № 2 назапасіць ужо па 400 тон мяса.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## «МЫ МОЖАМ І БУДЗЕМ БУДАВАЦЬ ЯКАСНАЕ І ТАННАЕ ЖЫЛЛЁ»

Вырашэнне жыллёвай праблемы — адзін з трох прыярытэтаў, вызначаных прэзідэнцкай Праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі да 2000 года. Прычым, як не раз адзначаў Аляксандр Лукашэнка, у той няпростай сітуацыі, у якой аказалася наша рэспубліка пасля распаду Савецкага Саюза, неабходна мабілізаваць усе ўнутраныя рэсурсы, якія ёсць у краіне. Такая мэта пастаўлена і ў будаўніцтве жылля.

30 кастрычніка кіраўнік дзяржавы наведаў вёску Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна, дзе па яго даручэнню за месяц з нечым былі ўзведзены 9 сядзібных аднакватэрных жылых дамоў. Гэта эксперыментальнае будаўніцтва мела адразу некалькі мэтаў. Адна з іх — магчымасць рэканструкцыі і абнаўлення існуючай вёскі пры ўзвядзенні групы новых жылых дамоў з пракладкай інжынерных камунікацый. Акрамя таго, тут адпрацоўваліся праекты катэджаў, якія адрозніваюцца па аб'ёмна-планіровачных і канструкцыйных рашэннях, а таксама даюць магчымасць нармальна пражываць у іх сельскім жыхарам.

Усе 9 дамоў у Ракуцёўшчыне ўжо заселены. Навасяллі ў іх справілі 4 сям'і з мясцовага саўгаса «Краснае», яшчэ 5 сем'яў атрымалі ордэры ад акцыянернага таварыства «Забудова», якое выступіла ў якасці падрадчай арганізацыі. Праект распрацаваў маладзечанскі філіял інстытута «Мінсксельбудпраект».

Аналагічная «ўзорная» забудова была ажыццёўлена ў гэтым годзе ў вёсцы Вышадкі Гарадоцкага раёна. Аднак там жыллё атрымалася даволі дарагім — 1 кв. м агульнай плошчы ў сярэднім каштуе 458 долараў. Гэта нават даражэй, чым у Мінску. Пры будаўніцтве катэджаў у Ракуцёўшчыне ўдалося знізіць кошт амаль да 240 долараў. Аднак Прэзідэнт лічыць, што гэта не мяжа.

Паводле слоў спецыялістаў, эканоміі ўдалося дабіцца перш за ўсё за кошт рацыянальнага выкарыстання мансард. Кожны з пабудаваных дамоў мае два ўзроўні. У іх будаўніцтве выкарыстаны высакаякасныя айчынныя матэрыялы, якія выпрацоўваюцца на пяці мясцовых заводах АТ «Забудова». Таму невялікімі аказаліся і транспартныя расходы. Па свайму дызайну, камфорту і аснашчэнню дамы цалкам адпавядаюць еўрапейскім стандартам.

Застаўся задаволены кіраўнік дзяржавы і пракладзенымі ў вёсцы дарогамі. «Пры разумным падыходзе да справы, аказваецца, можам будаваць і танна, і якасна», — адзначыў ён.

Эксперымент у Ракуцёўшчыне стаў адначасова і рэалізацыяй указа Прэзідэнта, які датычыць падтрымкі моладзі. Менавіта маладыя сем'і атрымалі ключы ад катэджаў, але, вядома, не бясплатна. Першачарговы ўзнос — 10 працэнтаў кошту жылля — унеслі яны самі. Акрамя таго, ім былі прадастаўлены льготныя крэдыты на 40 гадоў. Пагасіць іх у значнай меры дапаможа і АТ «Забудова». Усе камунікацыі пракладзены за кошт дзяржавы. Прыкладна так, абапіраючыся на гэтыя «чатыры вуглы», і будзе вырашацца жыллёвая праблема.

«Мы абавязаны прыкласці ўсе намаганні, каб маладыя сем'і мелі дастойнае жыллё», — сказаў Прэзідэнт у гутарцы з сельскімі жыхарамі, — інакш у рэспублікі не будзе будучыні, нараджальнасць у апошнія гады і так рэзка знізілася. Патрэбна ўсяляк падтрымліваць моладзь».

Пасля агляду катэджаў Аляксандр Лукашэнка, а таксама міністры і кіраўнікі розных ведамстваў, якія суправаджалі яго ў паездцы, пабывалі ў пасёлку Чысць, што размешчаны паблізу Ракуцёўшчыны. У ім жа знаходзіцца асноўныя вытворчыя магутнасці АТ «Забудова». Азнаёміўшыся з прадукцыяй пяці заводаў, пякарні і мясакамбіната акцыянернага таварыства, Прэзідэнт пабываў на заводах чарапіцы, сухіх сумесяў, прайшоўся па цэхах дрэваапрацоўчага завода. Тут было на што паглядзець. Усюды выкарыстоўваецца высокаэфектыўная нямецкія тэхналогіі. І хоць цана на прадукцыю «Забудовы» крыху вышэйшая, на складах яна не залежваецца, бо яе высокая якасць гарантавана.

У той жа дзень кіраўнік дзяржавы наведаў два прамысловыя аб'екты ў горадзе Маладзечне — прадпрыемства па вытворчасці медыцынскіх інструментаў «Струм» і народнае прадпрыемства «Маладзечнамэбля».

**Віктар КУКЛОЎ, БЕЛТА.**

**У час наведвання завода па вытворчасці чарапіцы АТ «Забудова».**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛТА.**

**Забытая дарога ў бязмежжа.**

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТУ — 75 ГАДОЎ

### Новы рэктар БДУ Аляксандр Казулін лічыць, што галоўным у жыццядзейнасці універсітэта павінны быць прафесіяналізм, сумленныя адносіны да справы

Зацікаўленай, жывой атрымалася размова рэктара БДУ Аляксандра Казуліна з журналістамі ў Нацыянальным прэс-цэнтры. Фактычна гэта была ці не першая на новай пасадзе сустрэча Аляксандра Уладзіслававіча з прадстаўнікамі СМІ. Больш таго, спадару Казуліну давялося вытрымаць нават шквал крытыкі ў сувязі з тым, што ён вельмі неахвотна кантактуе з прэсай, радыё і тэлебачаннем. Жаданне многіх журналістаў прадставіць у сваіх выданнях рэктара БДУ ў юбілейныя дні, як жаль, так жаданнем і засталося. Аляксандр Уладзіслававіч растлумачыў гэта тым, што хацеў бы выйсці да чытача з сур'ёзнымі, канцэптуальнымі развагамі пра далейшы лёс універсітэта і ўвогуле універсітэцкай адукацыі.

Не дзіўна, што ход юбілейных урачыстасцей удзельнікаў прэс-канферэнцыі цікавіў у меншай ступені, чым стаўленне новага рэктара, напрыклад, да палітыкі ў сценах універсітэта. Казулін запэўніў журналістаў, што ніякіх разборак па палітычных прыхільнасцях студэнтаў і выкладчыкаў у БДУ не плануецца. Іншая справа, што, як падкрэсліў рэктар, палітычныя дэмаршы — не для універсітэта. Галоўным жа ў жыццядзейнасці універсітэта павінны быць прафесіяналізм, сумленныя адносіны да справы.

Сярод мноства іншых універсітэтаў краіны прыярытэты класічнай універсітэцкай адукацыі ўсё ж за БДУ. Ён у поўнай меры адлюстроўвае галоўным класічным патрабаванням: фундаменталізм у ведах, вялікая навуковая база для даследаванняў, шырокая гуманітарная падрыхтоўка. Дасягнутае папярэднімі дзесяцігоддзямі, карпатлівай працай папярэдніх пакаленняў патрабуе трывалага замацавання. Ва ўмовах, калі жорсткія правілы гульні дыктуе суровая эканамічная сітуацыя, дасягнуць гэтага няпроста. Прафесарска-выкладчыцкі састаў атрымлівае мізэрную зарплату. Усё старэйшымі па сваіму сярэдняму ўзросту становяцца універсітэцкія дактары і кандыдаты навук. Нягледзячы на многія цяжкасці, Аляксандр Уладзіслававіч Казулін спадзяецца на перамены да лепшага. У спадзяваннях гэтых ужо сёння ёсць важкі грунт — вядомы Указ Прэзідэнта, згодна з якім Белдзяржуніверсітэту нададзены статус вядучай вышэйшай навучальнай установы ў сістэме нацыянальнай адукацыі. Дзякуючы новаму статусу, лічыць Аляксандр Казулін, можна будзе прыняць шэраг канкрэтных практычных мераў, скіраваных на матэрыяльную падтрымку выкладчыкаў, студэнтаў.

Сярод іншых абяцанняў, у здзяйсненні, ажыццяўленні якіх новы рэктар БДУ ўпэўнены, — і жаданне трывалых, сур'ёзных кантактаў з беларускай прэсай, радыё і тэлебачаннем.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*(Больш падрабязна пра юбілей БДУ чытайце на 4-й стар.)*

## СТАРШЫНЯ ДЗЯРЖДУМЫ РАСІІ НАСТОЙВАЕ НА ЗНЯЦЦІ З ПАСАДЫ АНАТОЛЯ ЧУБАЙСА

Старшыня Дзяржэдумы РФ Генадзь Селязнёў заявіў пратэст у сувязі з прызначэннем Барыса Беразоўскага намеснікам сакратара Савета бяспекі РФ.

Спікер Дзяржэдумы «ўпэўнены, што назначэнне на такую адказную пасаду чалавека, які зрабіў антырасійскі пераварот на першым канале тэлебачання, не магло адбыцца без асабістай зацікаўленасці і пратэкцыі з боку кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта РФ Анатоля Чубайса». Селязнёў настойвае на «тэрміновым звальненні Чубайса з пасады кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта». Селязнёў афіцыйна заявіў, што ўдзельнічаць у кансультатыўнай нарадзе вышэйшых службовых асоб краіны ў прысутнасці спадара А. Чубайса адмаўляецца.

## ДАМОЎ НЕ ВЯРНУЎСЯ

22 кастрычніка ў 22 гадзіны 30 хвілін у Лідскі ГРАУС звярнуўся В., жыхар вёскі Гуды. Чалавек паведаміў аб тым, што прыкладна ў 15 гадзін пайшоў з хаты і дагэтуль не вярнуўся яго сын, вучань 5 класа. Супрацоўнікі міліцыі і ўнутраных войскаў пачалі пошукі. Назаўтра раніцай прачэсванне мясцовасці дало вынік. Але вынік жудасны: труп хлопчыка (па папярэдніх звестках, ён быў згвалтаваны і задушаны) знайшлі закапаным у зямлю непадалёк ад Гудаў і аўтадарогі Ліда—Вільнюс.

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» ў прэс-службе Гродзенскага абласнога ўпраўлення унутраных спраў, забойца ўжо затрыманы. Гэта А., жыхар горада Ліда, 1960 года нараджэння, нідзе не працуючы і раней судзімы.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

- Па разліках Кабінета Міністраў, **да канца 1996 года** ў бюджэт **недапаступіць** 17,3 працэнта гадавых бюджэтных паступленняў.
- Агульная сума пратэрмінаванай **запазычанасці** па зарплаце па стану за студзень—жнівень раўнялася **846,1 мільярда** рублёў.
- Калі ў 1994 годзе **з бюджэту** на пакрыццё пратэрмінаванай запазычанасці прадпрыемстваў было зрасходавана **6,2 мільёна** долараў ЗША, то за дзевяць месяцаў **бягучага года** гэтая сума **ўзрасла** да 34,6 мільёна долараў.
- **Па стану** на 24 кастрычніка агульны **доўг Беларусі** за расійскі газ склаў **6 трыльёнаў 187 мільярдаў 207 мільёнаў** беларускіх рублёў.
- Пры сярэдняй ураджайнасці **148—150 цэнтнераў** з гектара ў Беларусі **накапалі** 1.600 тысяч тон бульбы — на 5—10 працэнтаў **больш**, чым у **мінулым годзе**.

## ВЕТЭРАНЫ МАЮЦЬ ПРАВА РАЗЛІЧВАЦЬ НА ПЕРШАЧАРГОВЫЯ КЛОПАТЫ ДЗЯРЖАВЫ

У Рэспубліканскім Палацы культуры ветэранаў 29 кастрычніка прайшла чацвёртая справаздачна-выбарная канферэнцыя Беларускай рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны, працы, Узброеных Сіл і праваахоўных органаў. У яе рабоце прынялі ўдзел Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, кіраўнікі шэрага міністэрстваў і ведамстваў, дэлегацыі з Расіі і Літвы, іншыя афіцыйныя асобы.

Са справаздачным дакладам на канферэнцыі выступіў старшыня Рэспубліканскага савета ветэранаў Анатоль Новікаў.

Са студзеня 1996 года, падкрэсліў Анатоль Новікаў, ветэраны пазбавіліся права заканадаўчай ініцыятывы, і гэта не можа не хваляваць людзей, якія складаюць значную частку насельніцтва рэспублікі. Ветэраны разумеюць цяжкасці, якія зведвае маладая суверэнная дзяржава, аднак і ў гэтых нялёгкіх умовах яны, безумоўна, маюць права разлічваць на першачарговасць у вырашэнні сваіх надзённых праблем. Паводле слоў Анатоля Новікава, наспела неабходнасць стварэння дзяржструктуры па справах ветэранаў.

Нямала актуальных пытанняў, звязаных з дзейнасцю ветэранскіх арганізацый, закраналася і ў іншых выступленнях. Выказваліся патрабаванні аб вызваленні ад падаткаў, прадастаўленні льгот і бясплатнага жылля, забеспячэнні таннымі лякарствамі і таварамі, паляпшэнні медабслугоўвання.

Адным з дакументаў, што былі прыняты на канферэнцыі, стаў зварот да ветэранаў рэспублікі падтрымаць рэферэндум. «Ва ўзнікшай абстаноўцы рашаючае слова павінен сказаць народ, у якога ёсць адзіная магчымасць гэта зрабіць — прыйсці на рэферэндум», — гаворыцца ў звароце.

**Віктар КУКЛОЎ, БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСЬ НАВЕДАЕ ЎРАДАВАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ КІТАЯ

Урадавая дэлегацыя Кітайскай Народнай Рэспублікі на чале з віцэ-прэм'ерам Дзяржсавета Лі Ланьцынам наведае 7—10 лістапада нашу краіну з афіцыйным візітам.

Як паведамілі БЕЛТА ў аддзеле друку і інфармацыі беларускага МЗС, прадугледжваецца, што члены кітайскай дэлегацыі будуць прыняты Прэзідэнтам краіны Аляксандрам Лукашэнкам і прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром. У ходзе перамоў бакі абмяркуюць комплекс пытанняў беларуска-кітайскіх узаемаадносінаў.

**БЕЛТА.**

## ПАРТФЕЛІ ШКОЛЬНІКАЎ ПАПОЎНЯЦЦА НОВЫМІ ПАДРУЧНІКАМІ

Пад старшынствам віцэ-прэм'ера Уладзіміра Русакевіча адбылося чарговае пасяджэнне дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы новых падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы. Як паведаміла БЕЛТА прэс-служба Кабінета Міністраў рэспублікі, для выдання рэкамендаваны сем рукапісаў падручнікаў і навучальных дапаможнікаў. На дапрацоўку аўтарам адпраўлены рукапіс «Гісторыя Беларусі» для 11-га класа агульнаадукацыйнай школы.

Да канца гэтага года намечана правесці яшчэ адно такое пасяджэнне.

**БЕЛТА.**

*ЦЭНЫ*

## АДКУЛЬ УЗЯЛІСЯ ЗУСІМ НЕ СМЕШНЫЯ ЦЭНЫ Ў МАГАЗІНАХ ГРОДЗЕНСКАГА ГАРПЛОДААГАРОДНІНАГАНДЛЮ?

**Абласны выканаўчы камітэт прызнаў нездавальняючай работу Гродзенскага гарплодаагароднінагандлю па арганізацыі закупкі і продажу харчовых тавараў і палічыў немэтазгодным далейшае знаходжанне М. Леха на пасадзе дырэктара гэтага прадпрыемства. Гродзенскаму гарвыканкому прапанавана разгледзець пытанне аб скасаванні з ім кантракта.**

Такое рашэнне прынята на падставе вывадаў, зробленых спецыялістамі Службы кантролю Прэзідэнта па Гродзенскай вобласці. У 7 магазінах гарплодаагароднінагандлю з 13 правераных выяўлены факты рэалізацыі няякасных тавараў.

Практычна ўсюды адсутнічаў той ці іншы асартымент. Прычым у шэрагу магазінаў не гандлявалі таварамі айчыннай вытворчасці, якія меліся на базах горада, і ў той жа час закуплялася імпартная прадукцыя, якая каштуе ўдвая даражэй за беларускую. Не выпадкова ў гандлёвых кропках гэтага прадпрыемства адзначаны самы высокі ўзровень цэн на плодаагародніннную прадукцыю. Напрыклад, кілаграм часнаку свежага ў жніўні-верасні каштаваў ажно 20 тысяч рублёў. Для параўнання: у Ваўкавыску ён прадаваўся па 6.500, у Слоніме — па 11.500 рублёў. Цыбулю рэпчатую ў магазінах гарплодаагароднінагандлю прапаноўвалі па 6-7 тысяч рублёў, а ў гаркаапгандлі — па 3.600 рублёў.

Такая адчувальная розніца тлумачыцца тым, што 1 жніўня гарплодаагароднінагандаль закупіў за валюту ў польскай фірмы 5 тон цыбулі, тону часнаку і 6 тон кавуноў на суму 5300 амерыканскіх долараў. Пры гэтым уласных рэсурсаў цыбулі ў вобласці хапала. А што датычыць кавуноў, дык і гэта здзелка выглядае даволі дзіўна. Мяркуйце самі: ужо на наступны дзень гарплодаагароднінагандаль закупіў у прыватнага прадпрымальніка 11,6 тоны кавуноў без выкарыстання валюты па цэнах на 14 працэнтаў меншых.

Акрамя таго, Службай кантролю выяўлены сур'ёзныя парушэнні ў разліках за набытыя тавары, у прымяненні гандлёвых надбавак і здачы свабодных памяшканняў у арэнду.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## ХАРЧАВАННЕ РАСЦЕ Ў ЦАНЕ БЕЗ УДЗЕЛУ ГАНДЛЮ

**Як сведчаць даныя Міністэрства гандлю, на працягу апошніх трох гадоў гандлёвыя надбаўкі на асноўныя харчовыя тавары застаюцца ў краіне нязначнымі і складаюць 10—30 працэнтаў.**

У прыватнасці, сярэдні ўзровень гандлёвай надбаўкі ў 1996 годзе знізіўся з 22 да 20 працэнтаў, а па харчовых таварах ён склаў 18,8 працэнта.

Як інфармуе Мінгандлю, тых даходаў, што атрымлівае галіна, ледзь хапае на пакрыццё выдаткаў на закупку і рэалізацыю тавараў і аплату неабходных плацяжоў, у т. л. 25 працэнтаў — падаткі і абавязковыя плацяжы, 50 працэнтаў — арэнда, утрыманне будынкаў, аплата працэнтаў за крэдыт, 20 працэнтаў — выдаткі па заработнай плаце. Па прагнозах спецыялістаў, эканамічнае становішча прадпрыемстваў гандлю яшчэ больш пагоршыцца, калі ў 2—4 разы будуць павялічаны стаўкі арэнднай платы, паколькі большасць з іх не мае ўласных будынкаў, а арандуе іх у выканкомаў.

Зрэшты, гэтыя падлікі простага пакупніка турбуюць мала, калі ўвогуле не пакідаюць абыякавым. Ён куды больш пакутуе ад новых цэн, што рэгулярна з'яўляюцца на цэнніках у крамах. Няхай сабе ўзровень надбаўкі і застаецца ранейшым, але растуць цэны рознічныя, адпускныя, павялічваецца кошт сыравіны. У рэшце рэшт (разам з надбаўкай) атрымліваецца лічба, якая «б'е» найперш спажыўца. Калі ўчора літровая бутэлька алею каштавала ў дзяржгандлі 25 тысяч рублёў, дык сёння ўжо 28 тысяч, калі кілаграм курынай печані даражэе адразу на 3,5 тысячы «зайцоў», а свініна — на 4-5 тысяч — пры ўсім яго шчырым разуменні праблем гандлю аптымізму гэта не дадае...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ДАХОДЫ ПЕРАВЫШАЮЦЬ РАСХОДЫ, АЛЕ ЖЫВЁМ УСЁ ГОРШ

**Вядома, лічбы — рэч упартая. Нягледзячы на відавочнае зніжэнне ўзроўню жыцця пераважнай большасці насельніцтва, статыстыка фіксуе перавышэнне даходаў беларусаў над расходамі.**

У адпаведнасці з інфармацыяй, прадастаўленай Нацыянальным банкам рэспублікі, даходы жыхароў нашай краіны за студзень—верасень склалі 87.820,7 мільярда рублёў. Звыш паловы гэтай сумы — 45.899 мільярдаў рублёў — склала зарплата, 14.723,8 мільярда — пенсіі, дапамогі і стыпендыі. Відавочна, што людская актыўнасць даволі высокая, бо іншыя даходы склалі 23.062,7 мільярда рублёў. За тыя ж 9 месяцаў гэтага года насельніцтва Беларусі патраціла 86.091,2 мільярда рублёў. Асноўная частка гэтай сумы патрачана на набыццё тавараў (чытай: прадуктаў харчавання) і аплату паслуг — 62.632,5 мільярда. Абавязковыя плацяжы і добраахвотныя ўзносы (як гэта ні дзіўна, іх яшчэ плацяць) склалі 5463,8 мільярда рублёў.

Хаця на набыццё жылых памяшканняў у людзей сродкаў няма (за 9 месяцаў накіравана 3,4 мільярда рублёў на гэтыя мэты), але ажыццяўленне ўкладаў, набыццё акцый і іншых каштоўных папер, набыццё інвалюты спустошыла кішэні беларусаў на 17.991,5 мільярда рублёў. Характэрна, што ў сёлетнім годзе беларусы і атрымліваюць, і трацяць больш, чым у мінулым. Тым не менш, калі ўлічыць узровень інфляцыі, наўрад ці беларусы адчуюць сябе багаценькімі Бураціна.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## СЯМЁН ШАРЭЦКІ СУСТРЭЎСЯ З ЮЗАФАМ ЗЫХАМ

29 кастрычніка ў Брэсце адбылася сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёна Шарэцкага з маршалкам польскага Сейма Юзафам Зыхам. Сустрэчы кіраўнікоў двух парламентаў суседніх краін становяцца, як бачым, традыцыйнымі, і больш таго, можна зрабіць выснову, што ў далейшым міжпарламенцкае супрацоўніцтва Беларусі і Польшчы будзе плённа развівацца.

— Мы дамовіліся аб тым, што будзем сустракацца часцей, у прыватнасці, мы згадзіліся на афіцыйны візіт Юзафа Зыха ў наш парламент у снежні гэтага года, а ў студзені наступнага года адбудзецца візіт нашых парламентарыяў у Сейм РП. Дамовіліся таксама аб тым, што кожны тыдзень па тэлефоне мы будзем інфармаваць адзін аднаго аб тым, што адбываецца ў нашых краінах, — зазначыў кіраўнік беларускага парламента пасля сустрэчы са сваім польскім калегам.

С. Шарэцкі паведаміў таксама карэспандэнту «Звязды», што размова ў Брэсце вялася перш за ўсё аб двухбаковых адносінах Рэспублікі Беларусь і Польшчы,  прызнана, што трэба смялей ісці на міжпарламенцкую работу ў гэтым напрамку, актывізоўваць работу адпаведных груп парламентарыяў, прэзідыумаў. Ішла размова аб актывізацыі супрацоўніцтва паміж памежнымі абласцямі і ваяводствамі Беларусі і Польшчы.

Не маглі не закрануць падчас перамоў спікеры парламентаў Беларусі і Польшчы і ўнутрыбеларускую палітычную сітуацыю. Юзаф Зых выказаў занепакоенасць тым палітычным крызісам, які адбываецца ў нас, і зазначыў, што так ці інакш ён уплывае на маральны клімат у Польшчы, як суседняй краіне. Было выказана пажаданне, каб у Беларусі шукалі шляхі мірнага вырашэння канфлікту. «Інакш мы і не можам», — падкрэсліў ў адказ на гэта С. Шарэцкі.

У сваю чаргу С. Шарэцкі зазначыў, што Беларусь не зацікаўлена ва ўваходжанні Польшчы ў НАТО, якая мае ваенна-палітычны характар. Зразумела, аднак, што кіраўніцтва Беларусі не можа даваць указанні палякам па гэтай праблеме, але ёсць ініцыятыва беларускага Прэзідэнта і парламента аб стварэнні ў цэнтры Еўропы бяз'ядзернай зоны. Ю. Зых адказаў, што пытанне аб такой бяз'ядзернай зоне палякі будуць разглядаць пасля таго, як стануць членамі НАТО, бо Польшча не хоча ўваходзіць у гэты блок непаўнапраўным членам ці на нейкіх умовах.

Перамовы датычыліся і праблем культурнага супрацоўніцтва Польшчы і Беларусі. Маршал Сейма Польшчы падзякаваў беларускаму боку за разуменне польскіх праблем у Беларусі і садзейнічанне ў адкрыцці польскай школы ў Гродне і польскага выдавецтва. Была пабяцана адпаведная падтрымка і беларусам у Польшчы. Польскі бок згадзіўся дапамагчы ў аднаўленні сядзібы кампазітара Станіслава Манюшкі. Сумесна будзе ўзводзіцца помнік Адаму Міцкевічу ў вёсцы Шчорсы, дзе ён працаваў у бібліятэцы Храптовічаў. С. Шарэцкі закончыў у гэтай вёсцы сярэднюю школу і, як былы вучань, стараецца паспрыяць пошуку грошай на помнік і ўстанаўленне яго да юбілею Адама Міцкевіча.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*ФУТБОЛ. КУБАК УЕФА*

## «СПАРТАК» ЦУДА НЕ СТВАРЫЎ

**У розыгрышы Кубка УЕФА наступае пара 1/8 фіналу. 16 прэтэндэнтаў на ганаровы трафей вызначыліся пазаўчора ўвечары.**

Апошняе прадстаўніцтва ў Кубку УЕФА страціла Расія. Сталічны «Спартак» у родных сценах не змог зрабіць цуд і кампенсаваць розніцу ў тры мячы ў матчы супраць нямецкага «Гамбурга». Выйгрыш двухтыднёвай даўнасці з лікамі 3:0 дазваляў германскім футбалістам гуляць спакойна і ўпэўнена. Максімум, чаго ўдалося дабіцца масквічам з сераднячкамі бундэслігі, дык гэта забіць два галы, прапусціўшы, праўда, столькі ж.

Дарэчы, немцы ў наступным этапе розыгрышу маюць найбольшае прадстаўніцтва — тры каманды. Паспяхова пераадолелі бар'ер Шальке — 04 і «Карлсруэ». Першыя па суме дзвюх сустрэч адолелі турэцкі «Трабзонспор» — 1:0 — дома і 3:3 — на выездзе, а апошнія без асаблівых праблем абыгралі італьянскую «Рому»: дамашняя сустрэча — 3:0, у гасцях — 1:2.

Вынікі астатніх сустрэч:

**Боавішта (Партугалія)** — Дынама (Грузія) — 5:0 (0:1), **Манака (Францыя)** — Барусія (Германія) — О:1 (4:2), Казіно (Аўстрыя) — **Інтэрнацыянале (Італія)** — 1:0 (0:1) — па пенальці — 3:5, Нацыянал (Румынія) — **Бруге (Бельгія)** — 1:1 (0:2), Брандбю (Данія) — **Абердзін (Шатландыя)** — 0:0 (0:2), **Бешыкташ (Турцыя)** — Легія (Польшча) — 2:1 (1:1), Ксамакс (Швейцарыя) — **Хельсінборг (Швецыя)** — 1:1 (0:2), **Андэрлехт (Бельгія)** — Гімарайш (Партугалія) — 0:0 (1:1), **Феенорд (Галандыя)** — Эспаньёл (Іспанія) — 0:1 (3:0), **Ньюкасл Юнайтэд (Англія)** — Ферэнцваран (Венгрыя) — 4:0 (2:3), Валенсія (Іспанія) — Славія (Чэхія) — 0:0 (1:0), Спортынг (Партугалія) — **МЕТЦ (Францыя)** — 2:1 (О:2), **Тэнэрыфе (Іспанія)** — Лацыо (Італія) — 5:3 (0:1).

* Чорным колерам выдзелены каманды, якія прайшлі ў 1/8 фіналу Кубка УЕФА.

Учора ўвечары завяршыліся матчы 4-га тура Лігі чэмпіёнаў.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*ПОГЛЯД*

# ЗА ПАРОГАМ ЕЎРАПЕЙСКАГА ДОМА?

Пасля 24 кастрычніка г. г. Беларусь апынулася яшчэ далей ад аб'яднанай Еўропы, чым была два гады таму. Прынятая Еўрапейскім парламентам рэзалюцыя аб сітуацыі ў нашай краіне прадугледжвае, што працэс ратыфікацыі Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве паміж Беларуссю і заходнееўрапейскімі краінамі, як і ўвядзенне ў дзеянне Часовага пагаднення аб гандлі паміж Еўрапейскім саюзам і нашай краінай, — прыпыняецца.

На практыцы гэта азначае, што той рэжым найбольшага спрыяння ў эканамічных адносінах з краінамі ЕС, якога ўжо фактычна дабілася Беларусь па працягу мінулага года, — скасоўваецца і адкладваецца на няпэўную перспектыву. На шляху экспарту беларускай прадукцыі на Захад зноў з'явіцца цяжкапераадольны рубеж высокіх пошлін і іншых абмежаванняў. Выгадны гандаль з Еўропай, які дазваляў утрымліваць знешнегандлёвы баланс у больш-менш прымальным стане і кампенсаваць гіганцкі дэфіцыт у гандлі з Расіяй, — апынуўся пад пагрозай.

За што такое суровае пакаранне? Еўропа, якая імкліва аб'ядноўваецца, даўно выпрацавала кодэкс правілаў для дзяржаў, што імкнуцца стаць паўнапраўнымі членамі супольнасці. Жадае краіна карыстацца ўсімі выгодамі і прывілеямі, якія нясуць з сабой аб'яднаны еўрапейскі рынак, адзіная валютная і мытная прастора, — павінна прызнаць гэты кодэкс і кіравацца ім.

Ніякіх звышнатуральных патрабаванняў пры гэтым не прад'яўляецца — звычайны пералік даўно выпрацаваных чалавецтвам дэмакратычных каштоўнасцей: строгае захаванне правоў чалавека, дэмакратычная Канстытуцыя, у якой замацаваны прынцып падзелу ўладаў, рэальнае імкненне краіны да стварэння прававой дзяржавы, у якой любая асоба — ад радавога грамадзяніна да прэзідэнта — павінна кіравацца выключна законам, а не правам сілы ці суб'ектыўнымі матывамі — напрыклад, уласным разуменнем мэтазгоднасці.

Еўрапейская супольнасць нікога не прымушае да прыняцця гэтых прынцыпаў. Тыя дзяржавы, якія па якіх-небудзь прычынах імкнуцца будаваць сваё жыццё, грунтуючыся на іншай прававой і ідэйнай платформе, проста аказваюцца за межамі аб'яднанай Еўропы, нават калі геаграфічна і адносяцца да еўрапейскага кантынента.

Пасля 1989—1991 гадоў, калі па Усходняй Еўропе пракацілася хваля «бархатных» рэвалюцый, калі рухнула Берлінская сцяна і адышоў у нябыт Савецкі Саюз, — ніводная з дзяржаў гэтага рэгіёна не наважвалася кідаць выклік Еўропе. Найперш таму, што гэта было б эканамічным і палітычным самагубствам.

Хто з большай, хто з меншай хуткасцю — усходнееўрапейскія краіны пачалі рухацца ў Еўропу. Членамі Савета Еўропы сталі ўсе без выключэння суседзі Беларусі, у тым ліку Расія.

Суседняя Польшча — адзін з галоўных кандыдатаў на першачарговае ўступленне ў НАТО і Еўрапейскі саюз.

У гэтыя ж структуры настойліва прабіваюцца Літва і Латвія — праўда, іх пара настане крыху пазней — не ў апошнюю чаргу таму, што еўрапейскія структуры маюць пэўныя прэтэнзіі да захавання правоў нацыянальных меншасцей у гэтых дзяржавах.

Пазаблокавая Украіна таксама заяўляе пра сваё імкненне да інтэграцыі з аб'яднанай Еўропай і спакойна рэагуе на набліжэнне НАТО да сваіх межаў.

Беларусь на сёння — адзіная ў Еўропе краіна (за выключэннем, бадай, толькі Босніі і Герцагавіны, што яшчэ не адышла ад вайны), якую трымаюць на парозе Савета Еўропы.

У рэзалюцыі Еўрапарламента тая форма дзяржаўнага ўладкавання, якая заяўлена ў прэзідэнцкім праекце новай Канстытуцыі, ахарактарызавана як аўтарытарная. Выказаны таксама шэраг прэтэнзій да таго, як у Беларусі выконваюцца правы прафсаюзаў, як захоўваецца прынцып свабоды сродкаў масавай інфармацыі, як выконваюцца рашэнні парламента і Канстытуцыйнага суда.

Міністэрства замежных спраў Беларусі надзвычай рэзка і катэгарычна адрэагавала на рэзалюцыю Еўрапарламента: выказала «глыбокае неразуменне і абурэнне», абвінаваціла ў тым, што шэраг палажэнняў рэзалюцыі «выходзіць за рамкі адказнага і канструктыўнага партнёрскага дыялогу», пашкадавала, што дакумент «мае яўна палітызаваны тон» і «недастаткова вытрыманыя фармулёўкі, што ў шэрагу выпадкаў страцілі сваю актуальнасць».

Зразумела, што рэзалюцыя Еўрапарламента — адзін са спосабаў паўплываць на разгортванне падзей у Беларусі. Еўрапейская супольнасць хацела б, каб наша краіна жыла па агульнапрынятых правілах. І наўрад ці можна дакараць за гэта еўрапейцаў: будуючы аб'яднаны дом на адзіных прынцыпах, яны не хочуць, каб на карце кантынента заставалася пляма, агароджаная дротам. Зразумець гэта нам даюць цывілізаванымі — эканамічнымі метадамі.

Чым можа адказаць на гэта Беларусь — невялікая краіна з 10-мільённым насельніцтвам і паралізаванай эканомікай, — усяму кантыненту, дзе сканцэнтравана палова сусветнага фінансавага і прамысловага патэнцыялу? Пагрозы з нашага боку ў адрас Захаду гучаць смешна, а крыўды — недарэчна. Вядома, можна паэксперыментаваць: адгарадзіцца ад свету, аб'явіць аб уласнай нацыянальнай гордасці, зрабіць стаўку на самадастатковасць, самазабеспячэнне, уласныя сілы... Эксперыментавалі ўжо многія — Албанія, Лівія, Паўночная Карэя, Куба. Не дай нам Бог паўтарыць гэты горкі і бясплённы шлях.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# Колькі над вёскай дымоў?

Больш чым тры гады назад у вёсцы Вілейты, што ў Пастаўскім раёне, з'явіліся навасёлы. Прыехалі дзве сям'і досыць яшчэ маладых людзей з Латвіі. Дамоўленасць напачатку была такая: мясцовы калгас імя Калініна прадастаўляе пустыя хаты, дапамагае ў іх рамонце, адначасова рамантуецца, рыхтуецца да прыёму кароў і ферма, на якой будуць працаваць перасяленцы. Часу мінула нямала, але каровы на ферме так і не з'явіліся, адна з сем'яў паехала ў Расію, пакінуўшы хату. А вось Панамаровы пакуль што застаюцца ў Вілейтах. Адрамантаваная хата цяпер ужо належыць ім — выкупілі, ёсць і гектар зямлі, гаспадарка.

Трэба сказаць, што Вілейты толькі намінальна можна назваць вёскай. Неба над ёю грэюць толькі тры коміны. Да сапраўднай вёскі з нейкімі прыметамі цывілізацыі — крамай, школай, сельсаветам — 7 кіламетраў. У Вілейты ж прыходзіць адзін раз на тыдзень аўталаўка. Затое ад вёскі да мяжы з Літвою ўсяго кіламетр. І пагранічнікі тут бываюць часцей за іншых прадстаўнікоў уладных і іншых структур. А мясціны, паверце, вельмі прыгожыя. Досыць урадлівая для Віцебшчыны зямля. Ды няма і не бачыцца пакуль што ніякіх перспектыў.

З сям'ёй Панамаровых я пазнаёміўся выпадкова, але іх праблемы не могуць пакінуць раўнадушным, праблемы ўжо тыповыя для шматлікіх сёння пакутнікаў-перасяленцаў.

Ванда пасля культасветвучылішча апынулася ў Рызе, тут жылі сваякі, тут было крыху лягчэй у тыя недалёкія яшчэ гады. Памяняла прафесію, стала касметолагам. У Рызе сустрэла Юру, які перабраўся з Сібіры — таксама да сваякоў. Двухпакаёвую кватэру атрымалі ў пасёлку Вангажэ, што за пятнаццаць кіламетраў ад латышскай сталіцы. Райскі куточак, і ў той жа час вялікі горад побач. Але пачаліся ў рэспубліцы вядомыя падзеі. І, як гаворыць сама Ванда: «Не хапіла, напэўна, разважлівасці. Так, жыць было няпроста. Часам даводзілася сутыкацца з негатыўнымі праявамі. Захварэў сын, званю ў паліклініку, каб пакласці яго на абследаванне. А ў мяне пытаюцца: «Па-латышску гаворыць?» — «Не.» — «Будзе цяжка.» Але гэта хваля схлынула, сёння нашы сябры, хто застаўся ў Латвіі, ужо не шкадуюць аб сваім выбары. Ну а нас як шалёны вецер панёс. У 92-м танна прадалі кватэру, прыехалі да мяне на радзіму, у Беларусь. Вілейты выбралі таму, што тут прапаноўвалі жыллё, ды і радня ў Галатыльцах, побач».

Вяскоўцы заўсёды са скепсісам назіраюць за тым, як абжываюцца, пачынаюць гаспадарыць побач з імі ўчарашнія гараджане, якія і каня ні разу ў сваім жыцця не запрагалі, і касу ў руках не трымалі. За насмешкамі чуецца глыбокая перакананасць: нічога ў іх не атрымаецца. Сялянская праца можа дацца чалавеку толькі з маленства, а ўсё астатняе — гульні, прытым часовыя.

Але Панамаровы, як кажуць, уеліся ў гаспадарку грунтоўна. У лепшы перыяд у іх былі два кані, тры каровы, цяляты, 20 авечак, трусы, ханорыкі, куры, качкі, гусі, свая свінаматка. Хоць зямлі ў тым глухім кутку можна браць у апрацоўку і больш за гектар, каб пракарміць столькі жывёлы, кармы прыкуплялі. Гараджане сябе не шкадавалі. Падымаліся і зімой, і летам у пяць гадзін. Клаліся спаць тады, калі работы была зроблена. Але нічога не атрымалася. І не таму, што не змаглі весці гаспадарку. Аказалася, што гэта проста нявыгадна. Вытворца сельскагаспадарчай прадукцыі, прыватны вытворца, пастаўлены сёння ў такія ўмовы, што выжыць яму практычна немагчыма. У апошні час неаднойчы з фермерам, проста вяскоўцам, які мае немалую гаспадарку, разлічаную ўжо і на таварную вытворчасць, сядзелі мы з калькулятарам, падлічвалі, прыкідвалі, спрачаліся. Не, умовы не дазваляюць паспяховай дзейнасці. Выдаткі перавышаюць той прыбытак, які дае рэалізацыя прадукцыі, няхай і праз кірмаш. А трэба ж улічыць, што сялянская праца сёння самая цяжкая. Прыбытак маюць тыя, хто скупляе тое ж мяса па вёсках жывой вагой і вельмі танна, а потым вязе яго на кірмашы буйных гарадоў. Але чаму не заняцца гэтым жа тым, хто мяса вырошчвае? Вось і парадокс: ім з-за пастаяннай працы проста няма часу, магчымасці.

Сёння ў гаспадарцы Панамаровых каза, дзве авечкі ды птушка. Гэта тое, што патрэбна толькі сваёй сям'і, што не выклікае вялікіх клопатаў. Вытворцаў з іх не атрымалася. Але чым заняцца на вёсцы, у такім глухім кутку?

У Юрыя ёсць нейкая магчымасць паехаць у Расію, там, у Падмаскоўі, жывуць сваякі, знойдзецца праца. Але кватэра. Яе купіць няма за што. Грошы, атрыманыя за кватэру пад Рыгай, не ідуць ні ў якое параўнанне з тым, што трэба заплаціць за кватэру ў Расіі.

Сям'я трапіла ў своеасаблівую пастку. Сёння Панамаровы прызнаюць, што з'ехалі з Латвіі вельмі паспешліва і неабачліва. Але назад шляху ўжо няма. Больш таго, у Юрыя праблемы з атрыманнем беларускага грамадзянства. Для гэтага яму патрэбна атрымаць з Латвіі паперы аб тым, што ён не з'яўляўся грамадзянінам гэтай рэспублікі. Доўгая і нятанная працэдура.

Сёння Вілейты не адрэзаныя ад знешняга свету. Можна туды дабрацца і на легкавым аўтамабілі, патрабуе гэта не так шмат часу. Але прыйдзе зіма, замяце дарогу, і стане вёсачка сапраўды краем свету. Колькі ў гэту зіму будзе над ёю дымоў? Прынамсі Панамаровы застануцца, ім яшчэ не адкрылася ні адна з дарог.

Калі рыхтаваў гэты артыкул, звязваўся з рознымі інстанцыямі, каб да канца высветліць сітуацыю. І ў адной з інстанцый неяк глуха прагучала, што не варта было б пісаць, бо былі ў свой час у Панамарова непрыемнасці з пагранічнай службай. Пагранічнікі — людзі дакладныя, у іх камп'ютэры захоўваецца кожны факт. Так, затрымліваўся Юрый за парушэнне мяжы, тлумачыў гэта тым, што наведваў хворага сябра ў суседняй рэспубліцы. За што і быў аштрафаваны. Увогуле, пакуль што Панамаровы толькі плацяць дзяржаве — падаткі, зборы на кірмашы, штрафы і г. д. А вось дапамогі перасяленцы не адчуваюць ніадкуль. Таму хутчэй за ўсё — панясе іх вецер далей з Беларусі. А шкада, людзі працавітыя.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

*Пастаўскі раён.*




# Шунеўка як важны крытэрый харчовай праграмы

**Мяркуючы па тым, якія травы ўзыходзяць і красуюцца на тэрыторыі сястры Хатыні, можна сцвярджаць, што па шашы Бягомль—Докшыцы даўно не праязджаў вялікі начальнік...**

Запусценне на мемарыяле смутку зусім не сведчыць, што сюды зарасла народная сцяжына. Час ад часу тут спыняюцца на перадышку стомленыя ад дарогі вадзіцелі розных масцей, значна радзей, але збочваюць і аўтобусы з дзецьмі. Аднак галоўная місія Шунеўкі — павышэнне надояў. *(Як бачна па здымках.)*

Гэта адзін з прыкладаў сучаснай псіхалогіі практычнай мэтазгоднасці сімвалаў вялікай трагедыі. «Не прападаць жа дабру», — скажа чалавек, для якога жыццёвыя патрэбы з'яўляюцца галоўным крытэрыем яго паводзінаў.

У Хатыні косяць сена. На могілках з бяроз збіраюць сок. У Курапатах ладзяць пікнікі, збіраюць ягады...

Эпоха стварэння мемарыялаў і комплексаў пад прэмію (дзяржаўную ці ленінскую) адышла, не пакінуўшы парасткаў духоўнасці і патрыятызму.

**Анатоль КЛЯШЧУК,**
**фота аўтара.**

*Докшыцкі раён.*



# Жыві доўга, Добрая Зямля! Жыві!

Пасёлкавая дарога то нечакана зверне ўбок, то плаўна спаўзе ў лагчынку, то шмыгне за нізкарослы хмызнячок. Яна нібы забаўляецца з табой: «Паспрабуй, дагані, згледзь мой шлях удалечыні!» Пагорак змяняецца роўнядддзю, густы прырэчны альшэўнік — апусцеласцю палёў. І так кіламетр за кіламетрам. Мы едзем у Добрую Зямлю! Вось стужка-дарожка бярэ круты спуск — і драўляныя хаты імкліва плывуць насустрач, усміхаюцца, вітаюць адкрытымі вачамі-вокнамі. А што зямля тут і сапраўды добрая, адразу выдаюць разгалістыя дужыя ліпы, якія пад сваім густым шатром прытулілі сядзібы. У вёсцы ўсяго пяць хатак. Нібы чародка птушак прысела між пагоркаў, расправіла-распрастала крылы—дахі дамоў і не пажадала пакідаць зацішлівы куток, атулены з усіх бакоў рэдкалессем.

Больш пяцідзесяці гадоў таму пачалі віць тут свае гнёзды сем'і Карповічаў, Кавэцкіх. Яны і пасадзілі цудоўную ліпавую алею. Добрая Зямля сваёй ласкай гарнула да сябе людзей! Куды ні кінь вокам, ні ступі — паўсюль ніводнага валуна, ніводнага каменьчыка, хаця ў суседніх вёсках гэткага «дабра» ой як багата, таму невыпадкова, што вёсачку і назвалі Добрай Зямлёй. Тутэйшыя людзі ласкава наракаюць: «Павядзеш кароўку на выпас, і калі з дому малаток ці паленца не прыхопіш — бяда, няма чым калок ад ланцуга ў зямлю загнаць...»

Пасяліўшыся на такой зямлі, грэх, як кажуць, хварэць на пана. Тут усе, хто яшчэ пры сіле, жывуць у гармоніі з адвечнай сялянскай працай. Тутэйшыя жыхары трымаюць у сваіх гаспадарках багата ўсялякай жыўнасці, бо сціплага заробку, пенсіі не хапае. Таму і выручае ўласная гаспадарка. Перакананы халасцяк Станіслаў Гардынец гадуе, напрыклад, парачку коней, карову. Сямідзесяцішасцігадовая Надзея Іосіфаўна Карповіч таксама мае на сваім стале непазычанае малако: аказалася ёй акурат пад сілу апекаваць рахманую казу Зуньку. На багатых балацявінах сапраўднае раздолле для догляду жывёлы. А сям'і Марыі Іванаўны Карповіч трэба старацца больш за астатніх: у гаспадарцы тры каровы. Цяжка, што і казаць, але затое ёсць што везці на продаж у базарны дзень: шмат збіраецца малака, смятанкі, творагу. Такім чынам маці вымушана «сціскаць» капейку да капейкі, каб заплаціць за навучанне дачкі, якая ў будучым стане юрыстам. Сямейныя расходы поўнасцю падпарадкаваны гэтай мэце.

Усе дарослыя дзеці пакінулі родную вёску, і цяпер у бацькоўскіх хатах бываюць толькі гасцямі. А які шлях выберуць нешматлікія юныя добразямельцы, калі стануць выпускнікамі Падбярэзскай школы і скончацца іх пакуты па бездарожжы ад хаты да цэнтральнай сядзібы саўгаса, дзе і знаходзіцца дзесяцігодка? Зімой, а таксама ў час веснавых паводак Добрая Зямля аказваецца адрэзанай ад свету: тут ні магазіна, ні ФАПа, ні іншых прымет цывілізацыі. Рызыкоўная спроба даехаць сюды заканчваецца няўдачай. Таму і не турбуюць тут безнадзейнымі выклікамі «хуткую дапамогу», ды і дазваніцца няма адкуль: ні ў адной хаце няма тэлефона. Але вяскоўцы не надта пакутуюць ад надакучлівых хвароб, сама прырода нібы засцерагае іх ад гэтага ліха. Старажылка вёскі Надзея Іосіфаўна Карповіч лічыць, што Добрая Зямля моцная гаючай сілай рэдкіх траў, якія красуюць на лугавінах, узлесках. Ад старой мы пачулі аповяд пра цудадзейную сілу сталёвага кораня, які непадуладны нават вастраму лязу сякеры. Гэтая фітаадукацыя суправаджалася цвёрдым перакананнем жанчыны, што падобных лекавых раслін нідзе, апроч як у Добрай Зямлі, знайсці немагчыма. Сівая траўніца расказвала, што яе землякі пры лячэнні ран, усялякіх драпін больш давяраюць дзікім лясным гваздзікам, а не агульнапрызнаным аптэчным мазям. І, відаць, маюць рацыю...

Вартасць зямлі спрадвеку вымяралася яе прыроднай урадлівасцю. Калі мераць гэтай меркаю і зараз, то тут поўнае сугучча назвы і рэальнасці. Важкаму збору агародных дароў цешацца мясцовыя людзі. Сям'я Марыі Іванаўны Карповіч мела сёлетняй восенню са свайго надзела дзвесце мяхоў бульбы. Добра родзяць тут крамяныя агурочкі, іншыя культуры, нават такія забытыя, як турша — разнавіднасць фасолі...

Гэтая зямля, нібы жывая істота, баіцца парушыць светлую веру мясцовых жыхароў у тое, што яна і сапраўды незвычайная. Дзівяцца гаспадыні, расказваючы, як штогод квактушкі прыводзяць у двор з дзесятак, як тут кажуць, куранят-байстручкоў. Зашыюцца чубаткі ў зацішных месцах у кустах на балацявіне і клапоцяцца там улетку пра будучае патомства. Ніяк не разгадаць добразямельцам тайну, як куркам удаецца ўратавацца ад пільнага вока лісіц, бо гэтыя лясныя насельніцы нават у белы дзень нахабна прыходзяць у сялянскія падворкі. І, здаралася, рыжая хітрунля, уцікаваўшы жаданую здабычу ў хлеўчыку і запеленгаваная гаспадаром сядзібы, не адступала ад свайго намеру, а рашалася нават куснуць крыўдзіцеля за руку — за тое, што гнаў няпрошаную госцю з двара. Тут успомняць і раскажуць не толькі гэтую быль, але і шмат падобных. Распавядуць і гісторыю пра куніцу, якая спрабавала залезці у кубелец і паласавацца салам.

Прырода як бы балансуе, ураўнаважвае страты і нечаканыя набыткі людзей, якія жывуць у Добрай Зямлі. Калі сёння, напрыклад, паменела на некалькі курыц у падворку, то не выключана, што праз нейкі час гаспадары-няўдачнікі змогуць зэканоміць грошы... на пакупцы футравай шапкі. Бязрадасны прысуд напаткаў нядаўна янота, якога сабакі высачылі ў балоце, а затым, самлелага ад няроўнай барацьбы, выкачанага да непазнавальнасці, прывалаклі ў двор. Больш ён у лес, зразумела, не вярнуўся...

Адкрытыя веснічкі быццам бы маўкліва і настойліва запрашалі нас зайсці ў двор да Надзеі Іосіфаўны Карповіч. Як магнітам цягнула сюды і волаткаліпа. Пабітая глыбокімі маршчынамі-рубцамі, кара выдавала сівы ўзрост. І гармонія старасці набыла сваю непаўторную вышыню, калі мы ўбачылі твар пажылой гаспадыні гэтага двара. Лічы ў той час, калі пускала карані на сядзібе маладзенькая ліпа, прывёз Антон Карповіч сваю жонку Надзею з вёскі Пераходы Смаргонскага раёна ў сям'ю бацькоў. Яны, як і большасць першапасяленцаў гэтай вёскі, змучаныя пасляваеннай нястачай, узводзілі сцены хаты з бярвення пакінутых нямецкіх зямлянак. Многія, разбіраючы металічныя перакрыцці тых жа зямлянак, зладзілі дыхтоўныя скляпы-насыпы, у якіх і цяпер добра захоўваецца бульба, іншая агародніна.

Ад Надзеі Іосіфаўны мы і даведаліся, што калісьці тут налічвалася 12 сядзіб, цяпер жа іх паменела амаль у два разы. Доўгі век пражылі некаторыя добразямельцы — хто да 95, а хто і да 100 гадоў. Людзі пажылога ўзросту тут дасканала ведаюць кожны радок з ненапісанага, а толькі зафіксаванага ў памяці летапісу роднай вёскі: з якога хто года нараджэння, калі і каму спраўлялі вяселле, берагуць памяць і пра кожнага з тых 17 душ, якіх правадзілі некалі ўсёй вёскай на пагост... Ім, старым, ой як балюча, што Добрая Зямля, якая пяцьдзесят гадоў калыхала ліпамі калыску жыцця, раптам пачала так прыкметна старэць і слабець разам з дрэвамі. Як сумныя помнікі завядання, і тут і там, на месцы колішніх сядзіб, чарнеюць «зробленыя на век» падмуроўкі... І толькі на адной з іх паблісквають слязінкамі смалы новыя вянцы будучага жытла — нехта з маладзечанцаў вырашыў у Добрай Зямлі пабудаваць дачу.

Мы пакідалі вёску. Вырашылі вяртацца напрасткі. Адна з тутэйшых жанчын прапанавала правесці да кладачкі праз рэчку Ластаянку, бо адшукаць яе нетутэйшаму чалавеку вельмі складана. Мы не сталі пярэчыць. І калі вёска засталася ззаду, і вузкая сцежка затрапятала пакручастай змейкай на шырокай далоні поля, пад нагамі я ўбачыла яркія агеньчыкі кветак. Адкуль яны ў гэтую позню восеньскую пару? Ды яшчэ так хораша красуюць! Нахілілася і пазнала — маргарыткі! З легенды, якую прачытала пазней, даведалася: Дзева Марыя рабіла іх з каляровай паперы для забавы свайму сыну. Яны так усцешылі маленькага Ісуса, ён так палюбіў іх, што адбыўся цуд — кветкі ажылі.

Захацелася паверыць у тое, што маргарыткі стануць сімвалам будучага ўваскрэшання паміраючай вёскі. Сцішыла хаду. Азірнулася. І ў бок ліпаў — верных і даўніх сяброўак старых драўляных хат — думкі-крылы панеслі, як жаданае прароцтва, словы: «Жыві доўга, Добрая Зямля! Жыві!»

**Ірына ПАШКЕВІЧ.**

*Валожынскі раён.*

*БЕЛАРУСКАМУ ДЗЯРЖАЎНАМУ УНІВЕРСІТЭТУ—75!*

**Пётр БРЫГАДЗІН:**

# «У сценах універсітэта не павінна адбывацца нівеліроўка асобы, наадварот — павінна ісці шліфоўка індывідуальнасці, яе развіццё і ўдасканаленне...»



***Усё, пра што згадваецца з нагоды 75-гадовага юбілею Беларускага дзяржаўнага універсітэта, уражвае — лічбы, факты, імёны. У саставе буйнейшай навучальнай установы краіны — 19 факультэтаў, ліцэй, тры навукова-даследчыя інстытуты, Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы, навукова-інжынерны цэнтр, шэраг вопытных станцый і навукова-даследчык лабараторый. Класічную універсітэцкую адукацыю на 13 асноўных факультэтах набываюць каля 15 тысяч студэнтаў. Больш за тысячу чалавек атрымліваюць другую вышэйшую адукацыю. Па 83 спецыяльнасцях ідзе падрыхтоўка кадраў праз дактарантуру і аспірантуру. Сапраўдная краіна. Дарэчы, краіна, якой нядаўнім Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь нададзены статус вядучай вышэйшай навучальнай установы ў сістэме нацыянальнай адукацыі. Напярэдадні юбілею наш карэспандэнт сустрэўся з першым прарэктарам Белдзяржуніверсітэта, доктарам гістарычных навук, прафесарам Пятром Іванавічам БРЫГАДЗІНЫМ.***

**— Пётр Іванавіч, нашу гутарку нельга не пачаць з наступнага: Указам Прэзідэнта краіны падкрэслена вядучая роля Белдзяржуніверсітэта ў падрыхтоўцы высокакваліфікаваных кадраў, развіцці навукі і культуры, умацаванні сувязей з міжнародным навуковым супольніцтвам. У чым бачыце першаснасць універсітэта вы асабіста? Сёння ж гэтулькі універсітэтаў па Беларусі...**

— Безумоўна, справа тут не ў дзяржаўных сімпатыях. Маўляў, сёння болей даспадобы Белдзяржуніверсітэт, заўтра — медыцынскі альбо эканамічны... Прыярытэты абумоўлены аб'ектыўнымі працэсамі і спробай уплываць на іх. Адукацыя выконвае шматгранныя функцыі — культурную, сацыяльную, народнагаспадарчую. І якая ж з адукацыйных структур выконвае гэтыя функцыі ў найбольшай ступені? Органы ўлады бачаць гэтыя працэсы, атаясамліваючы з імі ў першую чаргу Белдзяржуніверсітэт. Менавіта наша навучальная ўстанова звязана з фарміраваннем беларускай дзяржаўнасці, са стварэннем фундамента сістэмы вышэйшай адукацыі ў рэспубліцы. З універсітэта калісьці выйшлі і сённяшнія тэхналагічны, медыцынскі, педагагічны. Маральна-этычны клімат у грамадстве таксама ў значнай ступені залежыць ад нашых выпускнікоў. Універсітэт рыхтуе журналістаў, сацыёлагаў, палітолагаў, людзей, якія ўдзельнічаюць у дзяржаўным будаўніцтве. Хіба ж не праз іх ажыццяўляецца ўплыў на інфраструктуру дзяржавы? Вось мне і ўяўляецца, што універсітэт у сістэме вышэйшай адукацыі краіны адыгрывае базавую ролю.

Заўважце і наступную дэталь. Мы ўплываем на базавую падрыхтоўку спецыялістаў у іншых ВНУ. На кафедрах матэматыкі, фізікі, хіміі, біялогіі ў розных вышэйшых навучальных установах рэспублікі працуюць выпускнікі БДУ. А вазьміце Акадэмію навук... Усё гэта, сабранае разам, відаць, і вызначае нашу функцыю вядучага універсітэта ў нацыянальнай сістэме адукацыі. Так ужо гістарычна склалася.

**— Зыходзячы з гэтага, лагічным было б лічыць, што канцэпцыя развіцця вышэйшай школы ўвогуле — ваша прэрагатыва. Ці не так?**

— Думаю, што так адназначна замахвацца на канцэптуальнае развіццё ўсёй сістэмы вышэйшай адукацыі наўрад ці правільна. Але трэба зазначыць, што калі падпісваўся Указ Прэзідэнта пра універсітэт, то, відавочна, мелася на ўвазе, што універсітэт будзе ўплываць і на развіццё канцэптуальных асноў вышэйшай адукацыі. Распрацоўка новых вучэбных планаў па асноўных базавых, фундаментальных спецыяльнасцях — прэрагатыва, па сутнасці, універсітэта. Мы накіроўваем у міністэрства свае прапановы, праекты, стараемся ўплываць на сітуацыю. Хаця і разумеем, што ёсць навучальныя ўстановы, якія кожная ў сваёй галіне з'яўляюцца базавымі. Тэхнічная думка канцэнтруецца ў палітэхнічнай акадэміі. Эканамічны універсітэт канцэнтруе вакол сябе пэўную навуковую ауру. І гэта нармальныя працэсы.

**— І ўсё ж пра адметнасць універсітэта...**

— Тым і адметны, што наш універсітэт з'яўляецца класічным універсітэтам. У нас сканцэнтравана асноўная колькасць дактароў навук.

**— Дарэчы, колькі іх ва універсітэце працуе?**

— 211 дактароў навук. А яшчэ ж агромністы патэнцыял — 927 кандыдатаў навук. Ва універсітэце — фундаментальныя школы па фізіцы, хіміі, матэматыцы, гісторыі, філалогіі. Навуковыя школы фарміруюцца дзесяцігоддзямі. Хіба ж можна са зменай інстытуцкай шыльды на універсітэцкую неяк паўплываць на законы развіцця вышэйшай школы?

**— Выключнасць універсітэта, пэўна ж, патрабуе асаблівай увагі да пераемнасці адукацыі. Абітурыент—студэнт—выпускнік — вось формула, якую зараз выбудоўваюць у свеце. Пэўная ўвага універсітэта да абітурыента навідавоку. Існуе ліцэй пры БДУ, а вось ці знаходзіцца пад вашай увагай хоць бы на нейкім адрэзку часу выпускнік?**

— Ствараючы ліцэй, мы не ставілі перад сабой задачу рыхтаваць школьніка да паступлення ва універсітэт. У нас была іншая мэта — адбор таленавітых дзяцей з усёй рэспублікі. Гэта прынцыпова важна — не згубіць таленавітых, выцягнуць іх з глыбінкі, даць добрую гуманітарную падрыхтоўку дзецям, здольным у фізіцы, матэматыцы.

Што датычыць выпускнікоў, то тут куды больш складана. Мы думаем пра шляхі фарміравання сувязей з імі. Што ні кажы, у гэтым пераконвае час. Ідэалогія XXI стагоддзя — ідэалогія бесперапыннай адукацыі, адукацыі праз усё жыццё. Гэты тэзіс ухвалены ва ўсім свеце. Мы абавязаны даць магчымасці па перакваліфікацыі, па пашырэнню шляхоў самастойнага атрымання ведаў нашымі выпускнікамі. І тут ёсць ужо пэўныя напрацоўкі. Яны ўкараняюцца на факультэтах, у сістэме павышэння кваліфікацыі. Ужо сёння многія атрымліваюць у нас другую адукацыю. Змена тэхналогій, змены на рынку працы — гэтыя і іншыя прычыны патрабуюць ад чалавека, ад спецыяліста пастаяннай адукацыйнай працы. А універсітэт як установа, адказная за далейшы лёс выпускніка, павінен дзеля гэтага шукаць адпаведныя мадэлі.

**— Пётр Іванавіч, адчуваючы душой і сэрцам, што гэта не так ці хаця б не зусім так, усё ж уважліва прыслухоўваюся да размоў пра тое, што камерцыйныя, прыватныя ВНУ вызначаюцца большай мабільнасцю ў вызначэнні перспектыў рынку працы, здольны разгледзець найбольш патрэбныя студэнту ў будучай прафесіі веды, навыкі, тэхналогіі. Вы — першая вышэйшая навучальная ўстанова краіны — ці адчуваеце дух спаборніцтва з прыватнымі інстытутамі?**

— Прызнацца, я не задумваўся над гэтым пытаннем. Мы ніяк не адчулі дзейнасць камерцыйных ВНУ, калі гаварыць пра скарачэнне конкурсу, зніжэнне прахаднога бала ў нас. Хіба што вялікая колькасць жадаючых перавесціся з камерцыйных інстытутаў у БДУ.

**— Яно і зразумела, сутыкнуўшыся з ростам матэрыяльных затрат, студэнты, іх бацькі не вытрымліваюць.**

— Зусім не ў гэтым прычына. Студэнты камерцыйных ВНУ гатовы і ў нас вучыцца на платнай аснове. Але мы проста сотням жадаючых вымушаны адмаўляць.

**— Чым жа тады студэнты камерцыйных ВНУ тлумачаць сваё жаданне перавесціся ў БДУ?**

— Літаральна ўсе пішуць у заявах: «Хацелі б атрымаць фундаментальныя веды». Што ж датычыцца платных груп, то грошы мы бяром амаль гэткія ж, як і камерцыйныя ВНУ. А калі гаварыць пра конкурс, то ў нас ён даволі стабільны на працягу апошніх гадоў — 2,6—2,8 на адно месца. Да нас ідуць тыя, у каго сярэдні бал атэстата ў асноўным 4,5 і вышэй. Па многіх спецыяльнасцях у БДУ конкурс медалістаў.

**— Сёння, прабачце за такі натуралізм, куды ні ткніся, адусюль патыхае палітыкай. Часам немым голасам хочацца крычаць: «Людзі! Займіцеся палітыкай сям'і і ўласнага дабрабыту замест таго, каб на кухні ў шэсць—восем квадратных метраў абмяркоўваць усялякія там генеральныя лініі, палітычныя платформы і партыйныя лозунгі чарговага кааператыва з васьмі—дзесяці чалавек!» Але ж, з другога боку, у вашых сценах — будучая і сённяшняя эліта, інтэлігенцыя. Пэўна ж, без палітыкі ва універсітэце не абыходзіцца?**

— Без палітыкі жыццё сёння не ўяўляецца. Мы ж усе ад пачатку да канца ўцягнуты ў палітыку. Адзінае, што мы не хацелі б быць палітызаванай ВНУ. Спрабуем максімальна вывесці ўсе палітычныя структуры, якія існуюць у грамадстве, у дзяржаве, за рамкі універсітэта, інтэрната. Студэнт, на мой погляд, працэс сацыялізацыі павінен праходзіць натуральна, ва ўмовах плюралізму, свабоды выбару. Мы ж павінны даць веды аб тых ці іншых працэсах, расказаць, якая аснова, якая ідэалогія тых альбо іншых з'яў. Але мы катэгарычна супраць уцягвання студэнтаў ва ўсялякія палітычныя структуры, таму і забаранілі ва універсітэце палітычную дзейнасць, адкрытую палітычную прапаганду.

**— Дык што ж, маладзёжная эліта павінна быць зусім пазбаўлена пэўных ідэалагічных перакананняў?**

— Прабачце, але ж я такой высновы не рабіў. Наадварот — мы ад ідэалогіі не ўцякаем. Больш таго, падкрэслю, што з'яўляемся яе праваднікамі. Але — праваднікамі дзяржаўнай ідэалогіі.

**— Ужо доўгі час гавораць, што яе распрацоўка толькі яшчэ ідзе...**

— Так, працуюць розныя калектывы. Але ж хіба не аксіёмай з'яўляецца тое, што састаўныя часткі ідэалогіі — дзяржаўнасць, незалежнасць, уваходжанне ў еўрапейскую прастору, інтэграцыйныя працэсы ў рамках СНД. Усё гэта атрымала падтрымку сёння як дзяржавы, так і народа. Працэсы гэтыя замацаваны ў Канстытуцыі. Значыць, з'яўляюцца падставай для правядзення дзяржаўнай ідэалогіі.

**— Пётр Іванавіч, вы самі — выпускнік універсітэта, доўгія гады вашага жыцця звязаны з універсітэтам. Значыць, за плячыма — вопыт асаблівы, права на парады і жыццёвыя падказкі. Таму — ваша пажаданне сённяшнім першакурснікам Белдзяржуніверсітэта...**

— Трэба заставацца самім сабою. У сценах універсітэта не павінна адбывацца нівеліроўка асобы, наадварот, павінна ісці шліфоўка індывідуальнасці, яе развіццё і ўдасканаленне. Павінна стварацца атмасфера агульнай культуры, павышэння маральнасці. Вось за што і перажываю не менш, чым за навучальны працэс. І што, перакананы, найболей залежыць ад вучоных, выкладчыкаў.

**— Дзякуй за размову, Пётр Іванавіч. «Звязда» віншуе вас і універсітэт з юбілеем!**

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## СЁННЯ

| СОНЦА | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.07 | 16.39 | 9.32 |
| Віцебск – | 7.01 | 16.26 | 9.25 |
| Магілёў – | 6.56 | 16.29 | 9.33 |
| Гомель – | 6.51 | 16.28 | 9.37 |
| Гродна – | 7.23 | 16.53 | 9.30 |
| Брэст – | 7.18 | 17.00 | 9.42 |

**МЕСЯЦ**
Поўня
26 кастрычніка

**ІМЯНІНЫ**
*Пр.* Лукі, Іосіфа, Марына, Юліяна.
*К.* Крыштафа, Урбана.

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі кароткачасовыя ападкі ў выглядзе дажджу і мокрага снегу. Тэмпература паветра ў Мінску, Гродне — 3-5, Брэсце, Віцебску — 4-6, Гомелі, Магілёве — 5-7 градусаў вышэй нуля.

У наступныя двое сутак надвор'е істотна не зменіцца. Тэмпература 1 лістапада ўначы — мінус 4—плюс 1, удзень — 3-8 градусаў цяпла; 2-га ўначы — мінус 2—плюс 3, удзень — 0-5 градусаў вышэй нуля.

# ЖЫВІ, КІЁСК!

***Час падняў цэны, апустошыў кішэні. Амаль не засталося гандлёвых кропак, у якія б хацелася зазірнуць штодня. І толькі ля газетнага кіёска адчуваеш сябе пакупніком, танна тут і разнастайна. Зрэшты, чаму не патануў мінскі «Белсаюздрук» у віры перабудоў?***

***Ларыса Кузьмінічна ШАБЛОЎСКАЯ, якая ўзначальвае яго, у размове са мной на гэта пытанне адказала адназначна:***

— Дзякуючы калектыву. Разуменне значнасці сваёй працы, неабыякавасць да таго, што адбываецца ў краіне, дазволілі захаваць гандаль перыёдыкай у Мінску. Штодня на нашых прылаўках можна ўбачыць каля трохсот назваў газет і звыш сотні назваў часопісаў. Такой разнастайнасці няма ні ў адным горадзе СНД. Калі дадаць сюды гандаль кнігамі, то стане зразумелым, што наша прадпрыемства адзінае, якое здолела захаваць поўнамаштабны гандаль друкаваным словам у рэспубліцы. Да нас ідуць і пачаткоўцы, і сталыя выдаўцы. Толькі ў гэтым годзе на рэалізацыю ўзята кніг больш чым на чатыры з паловай мільярды рублёў. У нас незапатрабаваны патэнцыял па падпісцы. Вялікая колькасць грамадскіх распаўсюджвальнікаў друку гатова ў любы час падключыцца да арганізаванай падпіскі на часопісы і газеты. Зрэшты, наша прадпрыемства само выступіла заснавальнікам адной з іх. «Кніга і мы» — гэта газета для тых, хто цікавіцца навінкамі кнігавыдання, хто не страціў сувязі з кнігай, не страціў духоўнасці.

**— З вашых слоў я зразумеў, што дзяржаўная форма ўласнасці, на якой заснавана дзейнасць «Белсаюздруку», даказала сваю жывучасць і не патрабуе замены.**

— Я так не лічу. Але ж хіба мала наламана дроў пры апошніх пераўтварэннях?

У нашым калектыве існуюць розныя погляды на прыватызацыю. Я ж лічу, што да змены ўласнасці трэба падыходзіць вельмі і вельмі ўзважана.

Згодна з існуючай практыкай, наша прадпрыемства пасля акцыяніравання павінна захоўваць свой профіль на працягу пяці гадоў. Потым наступае свабода — гандлюй чым хочаш. Для таго, хто прыдбае ў горадзе звыш трохсот гандлёвых кропак, такое рашэнне — цудоўны надарунак, мінчане ж страцяць магчымасць штодзённа атрымліваць прэсу.

Зрэшты, якая б форма ўласнасці ні была, а працаваць трэба пры любой з іх. Калі б мы не праяўлялі ініцыятывы і прадпрымальнасці, то даўно б сталі банкрутамі, бо штодзённыя газеты, на вялікі жаль, тавар, які хутка псуецца. Назаўтра яны значна страчваюць у сваім першапачатковым прызначэнні. У той жа час доля гэтага тавару ў таваразвароце складае шэсцьдзесят тры працэнты. Рэалізуем іншыя дробязі, каб звесці канцы з канцамі. А ў цэлым душа баліць, калі газеты, якія змяшчаюць цікавыя матэрыялы, адпраўляюцца ў макулатуру. Страчвае ад гэтага ў першую чаргу чытач. Калі б нам дазволілі безпадаткова гандляваць састарэлымі штодзённымі газетамі, то ад гэтага выйгралі б усе.

**— Відаць, для гэтага трэба хадзіць па кабінетах. А ўвогуле ці даводзіцца жанчыне-кіраўніку разлічваць у наш час на падтрымку і разуменне мужчын?**

— Не магу сказаць «не». Так. Але, на вялікі жаль, не заўсёды. Большасць з іх глядзіць на мяне як на звычайнага кіраўніка. Часам стрэнеш неразуменне і грубасць. Зношу. Хаця крыўдна. За мной жа жаночы калектыў, больш чым семсот працуючых... Спісваю на наш час.

У цэлым імкнуся ўзяць логікай, развагай, а не прыналежнасцю да слабага полу. Узяць тыя ж падаткі. Плацім як і ўсе, у тым ліку на зямлю і шмат іншых. Вырашыла прадпрыемства папрасіць ільготу. Мінгарвыканкам даў дазвол тры гады накіроўваць сумы падатку за зямлю на рэстаўрацыю і замену кіёскаў. У хуткім часе нашы «домікі» стануць сапраўдным упрыгажэннем сталіцы.

Шукаем паразуменне з гарадскімі электрасеткамі, якія пакуль не адрэгулявалі спагнанне з нас плацяжоў за электраэнергію і падключэнне кіёскаў да электрасілкавання.

Спадзяюся, што ў гэтай справе возьме верх хвалёная мужчынская логіка... Зрэшты, яе нехапае вельмі адчуваецца ў некаторых заканадаўчых актах, нормах і ў цэлым у гаспадарчым жыцці. Мяне не аднойчы прыцягвалі да судовай адказнасці за тое, што на нашым прадпрыемстве парушаецца патрабаванне аб вывазе з кіёскаў прадметаў продажу ў канцы рабочага дня. Бязглуздзіца, але ж даводзіцца адказваць. Уражанне такое, што той, хто ўсталёўваў гэтую норму, мякка кажучы, не ведае, што такое «Саюздрук». Гэта ж сапраўднае дзяржаўнае злачынства — абавязваць штодня вечарам збіраць усе тавары з нашых кіёскаў, звозіць іх у адно месца, а потым паўтараць тую ж аперацыю раніцай у зваротным накірунку. Можна ўявіць, колькі дзяржаўных грошай вылецела б пры гэтым «у трубу». Увогуле, пры распрацоўцы заканадаўчых актаў трэба ўлічваць рэчаіснасць і тое месца, якое займае «Белсаюздрук» у жыцці сталіцы ды і ў рэспубліцы ў цэлым.

Іншая справа — ахова каштоўнасцей. Нашы кіёскі рабуюць, ламаюць. Міліцыя часта спазняецца, сведкі маўчаць. У такой сітуацыі нам, жанчынам, трэба самім сябе бараніць. Што, дарэчы і робім: прапрацоўваем праект радыёаховы кіёскаў з дапамогай транкінавай сувязі. Ужо ў бліжэйшым будучым усе кіёскі будуць здавацца пад ахову. Спадзяюся, што пасля гэтага міліцыя будзе ставіцца да працаўніц кіёскаў больш паважліва.

На развітанне гаспадыня вялікай сеткі сталічных кіёскаў і магазінаў пажадала калектыву нашай газеты поспехаў, і я апынуўся ў віры гарадскога жыцця. Ля кіёска прыпыніўся. Доўгіх гадоў жыцця, дружа!

**Віктар ХУРСІК.**

## ПАГРАНІЧНЫ РЭЖЫМ БУДЗЕ «МЯКЧЭЙШЫ»

Па ўзгадненню з польскім бокам у перыяд з 1 па 4 лістапада ўстаноўлены спецыяльны парадак перасячэння беларуска-польскай граніцы для грамадзян дзвюх дзяржаў, якія маюць намер наведаць магілы сваякоў. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў аддзеле друку і інфармацыі МЗС нашай рэспублікі, у гэтыя дні яны змогуць перасякаць граніцу пры прад'яўленні пашпартоў і пасведчанняў, выдадзеных Беларускім таварыствам Чырвонага Крыжа і Польскім Чырвоным Крыжам і Чырвоным Паўмесяцам, якія пацвярджаюць наяўнасць магіл адпаведна ў Польшчы і Беларусі.

**БЕЛТА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## СПЕЦЫЯЛІСТЫ MIDNET ВЯЛІ Ў МІНСКУ НАРАДУ

**У беларускай сталіцы адбылася чарговая нарада экспертнай сеткі па ахове здароўя і стратэгіі фінансавання аховы здароўя (MIDNET).**

Мінск сабраў прадстаўнікоў дзесяці краін-удзельніц (акрамя Беларусі гэта яшчэ Чэхія, Славакія, Славенія, Венгрыя, Польшча, Германія і тры прыбалтыйскія дзяржавы), каб абмеркаваць цяперашні стан медыцынскай галіны, намеціць перспектыўныя планы.

Удзельнікаў нарады вітаў памочнік Прэзідэнта Алег Слука. Ён падкрэсліў усю важнасць абмяркоўваемых праблем, зацікаўленасць дзяржавы ў іх вырашэнні. У цяперашняй сітуацыі, калі фінансаванне галіны знізілася ўдвая, вельмі цяжка вызначаць мадэль будучага развіцця. Гэта пры тым, што ў рэспубліцы праяўляецца стойкая тэндэнцыя да скарачэння нараджальнасці (летась смяротнасць перавысіла нараджальнасць на 32 працэнты). Вельмі востра стаяць праблемы планавання сучаснай сям'і — зараз на адны роды прыпадаюць два аборты. У апошнія гады адзначаецца рост колькасці анкалагічных хворых.

Таму, як зазначыла ў сваім выступленні міністр аховы здароўя Інеса Драбышэўская, зараз менавіта для Беларусі характэрны своеасаблівы рэжым выжывання медыцынскай галіны. Для Беларусі, як лічыць Інеса Драбышэўская, больш прымальная бюджэтна-страхавая мадэль развіцця медыцыны з дабаўленнем пэўнай часткі платных паслуг.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ДОЎГАЖЫХАРЫ АБЫЯКАВЫЯ ДА РАДЫЯЦЫІ

Ніхто не будзе абвяргаць ісціну, што радыяцыя шкодная для здароўя. Доўгажыхары з Нараўлянскага раёна быццам бы не ведаюць пра гэта. У вёсцы Антонаў аднавяскоўцы нядаўна адзначылі стагоддзе Васіліны Якаўлеўны Ільяш, а ўсяго ў раёне да векавога рубяжа набліжаюцца больш як 30 чалавек. Спецыялісты тлумачаць гэта пастаяннай пасільнай працай ветэранаў, умераным харчаваннем і... абыякавасцю да неспрыяльнай экалагічнай абстаноўкі.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**

# ТРАНСПАРТ «ВОЗІЦЬ» — ПАСАЖЫРЫ ЦЕРПЯЦЬ?

## Журналіст «Звязды» падаў у суд на МГП «Мінскпасажыраўтатранс» за невыкананне прадпрыемствам сваіх абавязкаў: адсутнасці на маршруце аўтобусаў на працягу гадзіны



Гэтая раніца пачалася так, як звычайна пачынаецца ненармаваны працоўны дзень любога журналіста, які працуе ў аддзеле навін. Падняўшыся рана, мы з жонкай-калегай, каб не марнаваць дарэмна часу і пазбегнуць лішніх паездак, абое «селі» на тэлефон, узгадняючы як магчымыя сустрэчы, так і наогул графік працы на ўвесь дзень наперад. Вызначыўшыся ў прыярытэтах, накіраваліся на аўтобусны прыпынак «Енісейскі», да якога хады пехатою ад дому пяць хвілін. 22 кастрычніка 1996 года ў 9 гадзін 20 хвілін мы ўжо стаялі ў натоўпе іншых пасажыраў, што, як вынікала з колькасці «прысутных», ужо колькі часу чакалі транспарту. Эх, ведаць бы, наколькі зацягнецца гэтае чаканне...

Першыя 15—20 хвілін без аўтобуса прайшлі адносна спакойна і асаблівых падстаў для хвалявання не далі: ішла «будзённая» праца грамадскага транспарту. Людзей пакрысе станавілася на прыпынку ўсё больш, сыпаў вельмі нудны дробны дождж, але — чакалі. Ды і што заставалася рабіць, калі выбрацца з гэтага раёна (вул. Байкальская) іншым шляхам немагчыма: на невялікай пустыннай вуліцы таксі такая ж рэдкая з'ява, як і звычайныя легкавікі-прыватнікі. На прыпынку спыняюцца толькі тры аўтобусы — № 20 (што ідзе да Акадэміі навук), № 55 (на якім можна пад'ехаць да «Радыяльнай», а потым перасесці на тралейбус) і № 26 (чый шлях, на жаль, пралягае зусім у процілеглы бок — у Чыжоўку). Але ішоў час, а транспарту па-ранейшаму не было. Між іншым, у процілеглым накірунку гарэзліва прамчала спачатку адна «дваццатка», потым другая (забягаючы наперад, скажу, што за гадзіну іх было шэсць — малых і з «гармонікам»). Зазначу, што да канцавой дыспетчарскай станцыі «Ангарская-3» ад прыпынку «Енісейскі» язды 5—8 хвілін. Нават калі ўлічыць, што пасля 9 гадзін раніцы інтэрвал выхаду на маршрут аўтобусаў павялічваецца, за гадзіну павінна было прайсці як мінімум дзве машыны. Дзе там! Першая «дваццатка» з'явілася дакладна ў 10 гадзін 14 хвілін. У яе кароткі салон, ужо набіты людзьмі, як бочка селядцамі, змагла «ўбіцца» хіба трэць натоўпу — чалавек сорак. Так што заставалася па-ранейшаму тупаць з жонкай па прыпынку, балазе, дождж перастаў.

«Крануцца з месца» ўдалося толькі на наступным аўтобусе № 20, які, дзякуй Богу, падышоў хвілін праз пяць. (За гадзіну не было ніводнага аўтобуса № 55, у процілеглы бок прайшоў адзін 26-ы.) Усё б нічога, але літаральна праз тры прыпынкі, калі крыху паменела людзей, у салоне з'явіўся ... кантралёр. Вось так: аўтобусаў няма, а лавіць тых, хто літаральна змагаецца за права не тое каб сесці — уціснуцца ў транспарт, ахвотнікі заўсёды знойдуцца. Таму першае, што я зрабіў, дабраўшыся, нарэшце, да працоўнага месца (якія ўжо там, сустрэчы, якія артыкулы — усё кіпела ад жадання дабіцца справядлівасці!), дык гэта патэлефанаваў па нумары 246-86-22 на дыспетчарскую станцыю «Ангарская-3», якая, па ідэі, павінна адказваць за дакладнасць выхаду машын на маршрут. У адказ нешта прамармыталі пра адсутнасць аўтобусаў і кінулі трубку. Прабачце, а тыя шэсць аўтобусаў, што я бачыў раніцай на свае вочы — што, зніклі?

Напэўна, самае непрыемнае для кожнага чалавека, калі з цябе свядома робяць дурня. Таму рашэнне з'явілася імгненна: падаць у суд. Тым больш, што пісаць аб праблемах работы аўтобуснага маршруту № 20 (які належыць гарадскому аўтобуснаму парку № 6) даводзілася ўжо раней («Звязда» за 11 чэрвеня і 17 кастрычніка сёлетняга года). Тады ўсё на той жа «Ангарскай-3» таксама кідалі ў адказ тэлефонную трубку, а начальнік аддзела пасажырскіх перавозак парка Валерый Самойлаў не адмаўляў у інтэрв'ю пэўных парушэнняў у абслугоўванні пасажыраў з боку работнікаў вышэйназванага маршруту грамадскага транспарту...

Але перш чым распавядаць далей, хацеў бы зрабіць невялікае адступленне. Магчыма, нехта з чытачоў да глыбіні душы здзіўлены: чаго і куды лезеш, маўляў, усе так кожны дзень церпяць, і ты цярпі. Гэта табе не Захад, дзе за спазненне, скажам, цягніка па віне чыгуначнікаў усім пасажырам выплачваецца кампенсацыя за нанесены маральны ўрон. А, зрэшты, чаму б не? Мы ж усе імкнёмся да нейкіх рыначных (чытай — цывілізаваных) адносінаў. Чаму тады форма павінна разыходзіцца са зместам? Ведаеце, як у крамах: абсталяванне і інтэр'ер — заходні, а абслугоўванне — па-ранейшаму роднае, савецкае.

Дарэчы, у мяне была і іншая, сапраўды сур'ёзная прычына хвалявацца ў той дзень — трэба было тэрмінова выконваць рэкламны дагавор на вялікую суму. Часу заставалася няшмат, а працы было яшчэ даволі многа. У мяне ж дзень (спачатку з-за спазнення, потым з-за нерваў) выпаў амаль цалкам, г. зн. выкананне дагавора было пастаўлена пад пагрозу зрыву. Зрэшты, чаму мяне за мае ж грошы (заўсёды набываю праязны на некалькі відаў транспарту, г. зн. аддаю грошы транспартнікам наперад і яны перада мною ў даўгу) яшчэ і робяць дурнем?!

Палічыўшы гэтыя аргументы даволі пераканаўчымі, я ўзяўся за ўласнае расследаванне. Займаючыся праблемамі транспарту даволі працяглы час і маючы пэўныя знаёмствы ў розных ведамствах, тым не менш, я адразу быў здзіўлены тым, што пачуў з кампетэнтных крыніц. Аказваецца, маё жаданне падаць у суд з-за нявыхаду аўтобусаў на маршрут будзе ці не першым у гісторыі сталічнага грамадскага транспарту. Раней пасажырам кампенсавалі толькі парванае адзенне, былі выпадкі, калі людзі цярпелі нейкім чынам непасрэдна ад вадзіцеляў, але з-за дрэннай працы не судзіўся яшчэ ніхто. Падзівіўшыся такой цярплівасці ад суграмадзян, даведаўся, што падаваць у суд трэба на МГП «Мінскпасажыраўтатранс».

Як вядома, набываючы любы праязны дакумент, пасажыр заключае з гэтым прадпрыемствам дагавор на сваё своечасовае (нагадаю — ужо аплачанае) абслугоўванне, г. зн. перавозку. У дадзеным выпадку адбылося менавіта такое парушэнне сваіх абавязкаў перад мною з боку «Мінскпасажыраўтатранса». Як падкрэсліла крыніца, якая пажадала застацца невядомай, стварэнне такога прэцэдэнту — праз суд — у нечым было б на руку(?!) і самім транспартнікам. Гэта дазволіла б выйсці «наверх» аб унясенні і замацаванні ў неабходных законах пэўных змяненняў. Шчыра кажучы, такая падтрымка была нечаканай, але даволі прыемнай. Таму наступны мой званок быў у Мінскае таварыства абароны правоў спажыўца. Як патлумачыў юрыст, згодна з Законам «Аб абароне правоў спажыўца» (у прыватнасці, артыкула 12 — «Права спажыўца пры парушэнні аказання паслугі»), я маю поўнае права падаваць у суд на МГП «Мінскпасажыраўтатранс» іск аб кампенсаванні мне маральнага ўрону. Палічыўшы, што яго сумай будзе кошт ледзь не сарванага рэкламнага дагавора, па-першае, а па-другое, разглядаючы гэты матэрыял (як і сам суд) як рэкламу «Мінскпасажыраўтатранса», няхай і са знакам мінус, я выпісаў лічбу ў 25 мільёнаў рублёў. Адпаведная заява была накіравана ў нарсуд Маскоўскага раёна г. Мінска.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

**Ад аўтара. Рыхтуючы гэты матэрыял, выпадкова пачуў, як калега скардзіўся, што раніцай таго ж дня тралейбус нават не расчыніў на прыпынку дзверы: столькі ў ім было людзей. Давялося калегу разам з натоўпам чакаць наступнага, што, зразумела, адбілася на часе. Да чаго я ўсё гэта пішу? Мэта артыкула — паказаць недахопы не пэўнага маршруту грамадскага транспарту (іх толькі ў Мінску вунь колькі), а наогул адносіны да пасажыраў. Зразумела, транспартнікам сёння нялёгка. Але ніхто з кіруючых работнікаў не зможа паскардзіцца на адсутнасць разумення іх клопатаў з майго боку пры падрыхтоўцы журналісцкіх матэрыялаў. Так, абараняў у газеце, наколькі мог, ніколі не пісаў таго, што гаварылася «не для друку», словам, заўсёды паводзіў сябе тактоўна і паважліва. Ці не маю права я, ды і астатнія людзі, разлічваць на тое ж самае ў абслугоўванні, хаця б па мінімуму, з боку транспартнікаў? Мы ж бачым пакуль толькі дрэнную працу (прычым не толькі з-за адсутнасці грошай, а па прычыне абыякавасці да людзей), пагоні кантралёраў за «зайцамі». Паверце, сума судовага іску — не галоўнае для мяне, тым больш, як растлумачылі юрысты, нават пры самым паспяховым разглядзе справы на карысць аўтара, я змагу атрымаць ці не дзесятую яе частку. Мэта матэрыялу — расказаць, навучыць людзей на ўласным прыкладзе, як трэба бараніць свае правы спажыўца, куды звяртацца, якія паперы мець і г. д. На жаль, пакуль што ў нашай краіне на варце інтарэсаў чалавека дзяржава яшчэ не стаіць. Выратаванне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў. Магчыма, мой вопыт дапаможа некаму ў далейшым таксама абараніць свае гонар і годнасць. Таму, карыстаючыся выпадкам, прашу адгукнуцца тых, хто стаяў на прыпынку «Енісейскі» 22 кастрычніка з 9.20 да 10.20 гадзін раніцы. Магчыма, сведчанняў жонкі-калегі, з якой мы працуем разам, будзе недастаткова. Тэлефануйце, калі ласка, па нумары 268-27-41.**

**P. S. У той жа вечар ля Акадэміі навук упершыню з'явіліся прыватныя таксі, а «дваццаткі» лёталі, нібы шалёныя. Ці то самі па сабе, ці пасля маіх званкоў вэрхал узняўся, але з Акадэміі навук яны ішлі адна за адной. У 17.50 (час «пік») удалося нават сесці, чаго ўжо даўно не здаралася са мной на гэтым маршруце па шляху дамоў. Праўда, вадзіцель гнаў так, што пасажыры ледзь паспявалі заскочыць у салон, «крыючы» з гэтай нагоды яго матам, а перад самым маім выхадам на тое месца, дзе я толькі што сядзеў, з усяго маху на павароце бразнуўся на падлогу ва ўвесь рост п'яны як зямля мужчына, расціснуўшы ўвесь вінаград у сумцы жанчыны-суседкі, але я быў амаль шчаслівы...**

**P. P. S. Аб усіх далейшых навінах па гэтай справе «Звязда» мае намер інфармаваць чытачоў.**

# ЧАС «КАРАБЕЙНІКАЎ» ПРАХОДЗІЦЬ.

## Паток няякаснай прадукцыі на Беларусь схлыне?

***Як сцвярджаюць спецыялісты, для кожнай прафесіі існуе свая ступень рызыкі. Скажам, з-за спецыфікі працы бібліятэчны работнік пакутуе ад стрэсаў менш, чым машыніст цягніка. Разам з тым, незалежна ад прафесіянальных заняткаў, мы ўсе рызыкуем аднолькава, літаральна штодзень, падчас нават не здагадваючыся аб гэтым. Пагроза здароў'ю, а нярэдка і жыццю зыходзіць ад, здавалася б, на першы погляд зусім бяскрыўдных рэчаў: харчавання, бытавой тэхнікі, мэблі і шмат чаго іншага, з чым мы непасрэдна кантактуем на працягу ўсяго дня. Так, гаворка ідзе аб прадукцыі сумніўнай якасці, якая колькі гадоў таму, як сцвярджаюць спецыялісты, літаральна хлынула на Беларусь. Дзе шукаць ад гэтай навалы паратунку, як абараніць сябе і сваіх родных ад магчымай бяды — аб гэтым гаворка нашага карэспандэнта з начальнікам аддзела рэгламентацыі Міністэрства аховы здароўя Міхаілам Серафімовічам.***

**— Міхаіл Рыгоравіч, найперш, якія галоўныя мэты работы вашага аддзела?**

— Як і ў любой іншай цывілізаванай краіне — кантроль за забеспячэннем рынку бяспечнай для насельніцтва прадукцыяй. Такая патрэба ўзнікла адразу пасля развалу СССР. Раней праверкай якасці тавараў займаліся ў Маскве, мы ж тут толькі праводзілі кантроль за іх рэалізацыяй. Стаўшы самастойнай дзяржавай, гэтую задачу мы павінны былі выконваць ужо самастойна. Таму ў 1993 годзе па ініцыятыве Міністэрства аховы здароўя была створана ўласная сістэма кантролю за якасцю прадукцыі. На сённяшні дзень у краіне існуюць два цэнтральныя органы, на якія і ўскладзена гэта задача — наша міністэрства і Белстандарт.

**— Наколькі я ведаю, пэўны аб'ём прадукцыі нават не даходзіць да лабараторных даследаванняў...**

— Сапраўды, гэтая лічба складае каля 15 працэнтаў ад агульнай колькасці ўсяго таго, што спрабуюць сёння прапанаваць нашаму айчыннаму спажыўцу. Гэта тыя тавары, якія нам непатрэбны. Напрыклад, камерсанты прапануюць штучную мінеральную ваду накшталт «Баржомі». Хіба ў нас на Беларусі няма сваёй, навошта нам яе купляць недзе ў замежжы? Ці яшчэ прыклад. Мы адмовілі ў рэгістрацыі прывезенага з Расіі зубнога эліксіру. Там, прабачце, 99,9 працэнта гарэлкі мацункам 45 градусаў, а астатняе — эліксір мяты. Хто раніцай будзе рабіць прафілактыку зубоў гарэлкай?

**— Чуў, што вы даволі адмоўна ставіцеся да шматлікіх замежных раствaральных напояў. Чаму?**

— А якая карысць у тым жа «Юпі» ці «Інвайце», дзе ўсё цалкам штучнае, для нашай Беларусі, якая моцна пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы? Вы ж чытаеце газеты, слухаеце радыё: нацыя вымірае. Нам патрэбна здаровае маладое пакаленне. Колькі цудоўнай прадукцыі выпускае наша «Крыніца»! Ды ад разведзенага вадой варэння карысці будзе больш, чым ад усіх гэтых напояў.

**— Якім жа чынам гэта прадукцыя трапляе да нас? У кожным камерцыйным кіёску вунь яе колькі...**

— Мы можам абмежаваць паток такіх тавараў з Польшчы, але ў дачыненні да Расіі, з якой у нас адзіная мытная прастора, зрабіць гэта пакуль не ўдаецца. Разумеце, я ўвогуле не супраць тых жа раствaральных напояў ці штучнай мінеральнай вады. Але тое, што добра для велізарнай суседняй дзяржавы, можа не падысці нам. На жаль, нават калі мы адмаўляем у рэгістрацыі пэўных тавараў, яны рознымі шляхамі ўсё роўна трапляюць да нас. Шкоды, скажам, ад «Юпі» не будзе, але і карысці — таксама...

**— А што датычыць той прадукцыі, якая праходзіць у нас рэгістрацыю: наколькі спажывец абаронены ад нядобрасумленнасці вытворцаў?**

— Калі мы прымаем такое рашэнне, прадукцыя праходзіць строгі кантроль. Вывучаецца ўся дакументацыя (адкуль сыравіна, тэхналогія вытворчасці і інш.), нарэшце, праводзяцца лабараторныя даследаванні. Зразумела, нават самая лепшая прадукцыя можа мець пэўныя абмежаванні, таму раю ўсім вельмі ўважліва вывучаць пашпарт вырабу. Напрыклад, электрадрылі «Бош» маюць перавышэнне ўзроўню шуму па беларускіх нарматывах і праца з імі абмежавана дзвюма гадзінамі. Калі працягваць працу бесперапынна далей, гэта можа адмоўна паўплываць на арганізм. Фірма-вытворца пайшла насустрач нашым пажаданням і ўнесла адпаведны запіс у пашпарт электрапрыбора. Тое ж можна сказаць і ў дачыненні, напрыклад, да некаторых марак замежных тэлевізараў, працяглае знаходжанне каля экранаў якіх, асабліва дзяцей, можа прынесці шкоду, скажам, слыху. Таму ўважліва вывучайце тэхнічныя дакументы пакупкі.

**— Але часам здараецца, што, нават прайшоўшы шматступеньчаты кантроль, да спажыўца трапляе няякасны тавар. На каго пацярпеўшы можа падаць у суд?**

— На вытворцу або камерсанта, які яго ўвёз. Справа ў тым, што па выдадзеных намі дакументах у краіну паступае не адна партыя прадукцыі. Ёсць орган дзяржаўнага санітарнага кантролю, які можа ў любы час на прадпрыемстве або ў гандлі выбарачна праверыць гэтыя вырабы, але не выключаны і ўпушчэнні. Каб пазбегнуць іх у далейшым, зараз рыхтуецца ўказ Прэзідэнта аб стварэнні спецыяльнага нацыянальнага камітэта па пытаннях рэгістрацыі і ліцэнзавання многіх відаў дзейнасці, што, на нашу думку, будзе спрыяць забеспячэнню спажыўцоў добрай прадукцыяй. Час «карабейнікаў» прайшоў, на рынак выходзіць усё больш моцных фірмаў. Да таго ж, што датычыцца тэхнікі, яе якасці, будзем спадзявацца, дапамогуць нарматывы, распрацаваныя ў гэтым годзе Беларускім навукова-даследчым санітарным інстытутам, што былі зацверджаны ўсімі краінамі СНД як адзіныя нарматыўныя дакументы ў гэтай галіне.

**Гутарыў Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ЕЛЬЦЫН ГАТОВЫ ДА АПЕРАЦЫІ

Аперацыя на сэрцы прэзідэнту Ельцыну можа быць праведзена ўжо на наступным тыдні. Пра гэта заявіў вядомы амерыканскі кардыяхірург Майкл Дэбейкі. Па яго словах, у наступныя выхадныя дні ён накіруецца ў Расію для правядзення кансультацыі з урачамі Ельцына. У самой аперацыі Дэбейкі ўдзельнічаць не будзе.

### ІСЛАМ ДАЗВОЛІЎ ТАТАЛІЗАТАР НА ІПАДРОМАХ

Упершыню з часоў так званай «ісламскай» рэвалюцыі 1979 года ў Іране дазволена рабіць стаўкі на іпадромах. Хоць усё гэта абстаўлена шэрагам умоў, выкліканых жаданнем не нашкодзіць патрабаванням ісламу, факт, як гаворыцца, рэч упартая. Цяпер іранскія прыхільнікі коннай язды змогуць паспытаць грашовага шчасця з дапамогай таталізатара, частка прыбыткаў ад якога павінна пайсці на развіццё спорту і ўтрыманне коней.

### БЫЛЫЯ ЗАЛОЖНІКІ МАЮЦЬ НАМЕР ДАБІЦЦА ПАКАРАННЯ СВАІХ КРЫЎДЗІЦЕЛЯЎ

Вярхоўны суд КНР прыняў рашэнне аб вяртанні пашпартоў расійскім грамадзянам, якія на працягу сямі месяцаў утрымліваліся ў Кітаі ў якасці заложнікаў. Гэта адбылося з-за неўрэгуляванасці камерцыйнай спрэчкі з партнёрамі. У канцы гэтага тыдня расіяне вернуцца на радзіму. Але, перш чым працягнуць свой бізнес у Кітаі, расійскія бізнесмены маюць намер з дапамогай кітайскіх судовых органаў дабіцца кампенсацыі маральнага і матэрыяльнага ўрону.

### МІНІСТР АБАРОНЫ ФРАНЦЫІ ШПІЁНІЎ НА КАРЫСЦЬ СССР?

Былы міністр абароны Францыі Шарль Эрню ў 50—60-я гады займаўся шпіянажам на карысць ССР і Балгарыі. Паводле аднаго з французскіх часопісаў, былы прэзідэнт Францыі Франсуа Мітэран ведаў аб шпіёнскай дзейнасці міністра. Тайна была выкрыта дзякуючы архіўным матэрыялам КДБ, у якіх захаваліся сведчанні аб выплатах за атрыманую інфармацыю.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Жыхар раённага цэнтра Сергач Ніжагародскай вобласці Н. Парамонаў умудрыўся пабываць у мясцовым медвыцвярэзніку 88 разоў.

Гэты факт, дастойны занясення ў Кнігу рэкордаў Гінеса, быў абнародаваны ў друку ў сувязі з юбілеем Сергачскага медвыцвярэзніка. Дарэчы, ужо само адкрыццё гэтай установы стала падзеяй: яе «адсвяткавалі» наведваннем з начлегам адразу 29 сергачан. З таго часу — за 30 гадоў напружанай працы — у гэтай установе зафіксавана 50 тысяч 280 наведванняў, што ўдвая перавышае колькасць насельніцтва гэтага райцэнтра.

**«Труд»**

Знята заслона сакрэтнасці, устаноўленая Генштабам ВМФ вакол работы групы Уладзіміра Макарава з Інстытута эвалюцыйнай марфалогіі і экалогіі жывёл.

На працягу многіх гадоў група даследавала дэльфінаў і прыйшла да цікавага выніку. Аказалася, дэльфіны абменьваліся складанымі арганізаванымі сігналамі, якія функцыянальна падобныя на размову людзей. Марскія інтэлектуалы, сцвярджаюць даследчыкі, маюць нешта падобнае на наш алфавіт, марфемы і нават сінтаксічную арганізацыю нашай мовы. Адносяцца яны да так званай сістэмы зносінаў. Нічога падобнага ні ў кога з прадстаўнікоў жывёльнага свету на Зямлі няма.

**«Труд».**

**У ДРУКУ паведамлялася ўжо, што Міжнародны банк рэканструкцыі і развіцця прадаставіў Беларусі грант у адзін мільён долараў ад Глабальнага экалагічнага фонду. Гэтая сума накіроўваецца для рэалізацыі праекта «Ахова біялагічнай разнастайнасці лясоў Белавежскай пушчы» на тэрыторыі Беларусі.**

**Магло б, аднак, здарыцца і так, што рэспубліка гэтых долараў і не пабачыла б. Калі б мы пачалі планамерна пушчу высякаць, то міжнароднае супольніцтва ад нас, безумоўна, адвярнулася б.**

**А такія планы, між іншым, былі — з імі доўгі час насіліся некаторыя высокапастаўленыя асобы. Толькі за дзесяць месяцаў мінулага года (гэтыя лічбы таксама былі ўжо змешчаны ў адкрытым друку) яны мелі намер нарыхтаваць у Белавежскай пушчы 5 мільёнаў кубаметраў руднічнай стойкі! Яшчэ большую шкоду збіраліся нанесці Прыпяцкаму і Бярэзінскаму біясфернаму запаведнікам — там планавалася высекчы па 6 мільёнаў «кубоў» лесу!**

**З'явіліся і новыя спробы жорсткага ўмяшання ў запаведныя справы — з самымі непрадказальнымі вынікамі.**

**Менавіта аб гэтым сведчыць вытрымка з «Пратакола даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А. Р.», дадзеных у час рабочай паездкі ў зону адсялення жыхароў раёнаў, што пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, і ў г. Мазыр 1-2 жніўня 1996 года. Дакумент быў выдадзены 14 жніўня, і ў ягоным пункце 1.6, у прыватнасці, было запісана: «Мінабароны, МУС па ўзгадненню з запаведнікам і МНС да 15 верасня 1996 г. распрацаваць план правядзення на тэрыторыі запаведніка сумесных вучэнняў інжынерных войскаў і падраздзяленняў грамадзянскай абароны». Размова ішла пра Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік, які ўваходзіць у сістэму Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.**

**Сітуацыя, праўда, на сённяшні дзень змянілася. Па тлумачэнні мы спачатку звярнуліся ў МНС, да першага намесніка міністра І. РАЛЕВІЧА і начальніка ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях А. ПАНАМАРОВА.**

***ВЫМУШАНАЕ ПАСЛЯСЛОЎЕ***

# У ЗОНЕ РАДЫЯЦЫЙНАГА ЗАПАВЕДНІКА НІ ВЫБУХАЎ, НІ ПАЖАРАЎ НЕ БУДЗЕ

***Як рыхтавалася акцыя інжынерных войскаў і чаму яна была адменена***

*— Што вам, Ігар Віктаравіч, вядома аб распрацоўцы ў Міністэрстве абароны планаў па правядзенню вышэй памянёных вучэнняў?*

— У свой час штосьці там распрацоўвалі, і ім трэба было напоўніць свае распрацоўкі некаторымі канкрэтнымі фактамі, таму вайскоўцы і звярталіся да нас.

Аднак далей планаванне вучэнняў свайго развіцця не атрымала. Сваю думку тут выказалі розныя міністэрствы, у тым ліку і мы, калі вывучылі ўсе аспекты пытання. Выснова наша такая: сёння мы не гатовы да правядзення такіх вучэнняў, праводзіць іх у запаведніку нельга.

Менавіта таму, што там існуе значны радыяцыйны фон, з чым і сутыкнуцца людзі, якія будуць праводзіць работы ў запаведніку. Па-другое, сам яго статус забараняе праводзіць там падобныя мерапрыемствы. У запаведніка — прыродаахоўная функцыя, ён аддадзены вучоным для вывучэння працэсаў, якія там працякаюць.

Наогул, калі службамі кіраўніка дзяржавы рыхтуюцца такія паездкі Прэзідэнта, то ў мерапрыемства закладваюцца пэўныя думкі, якія яго цікавяць. Сам Прэзідэнт выказвае, безумоўна, і свае погляды на тую ці іншую праблему. Ён і тут выказаў пэўную прапанову — што ў гэтым дрэннага? Зусім нічога. Аднак калі потым вучоныя і спецыялісты выказалі свае думкі і прапановы, ён усё выслухаў і, трэба разумець, неяк змяніў ранейшае рашэнне. У гэтым, як я бачу, Адміністрацыя Прэзідэнта і ён сам дзейнічалі даволі гібка.

**А. ПАНАМАРОЎ:**

— Для таго, каб выказваць нейкія іншыя меркаванні, займацца рознымі дапушчэннямі, трэба мець нейкі распрацаваны план, рашэнне аб правядзенні вучэнняў. А проста балбатаць раней часу, я лічу, няправільна. План жа пакуль не зацверджаны, яго па сутнасці няма. Проста вяліся рабочыя прапрацоўкі — і што, трэба адразу раздуваць вакол гэтага цэлую праблему?

Пункт 1.6 «Пратакола даручэнняў» — гэта ж не догма, не загад, які трэба неадкладна выконваць, — не разабраўшыся, накіроўваць у зону салдат. Такое наша меркаванне, а якое рашэнне прыняло Мінабароны — першы выканаўца гэтага пункта, мы не ведаем і за гэта не адказваем.

Паважаючы думку прадстаўнікоў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, ад сябе ўсё ж дададзім: што датычыць так званай, па выразу А. Панамарова, «балбатні», то, думаецца, што выступленні з трыбун і ў друку, як і звароты вучоных, дапамаглі таму, што вышэйшая ўлада больш дэталёва ўнікла ў сутнасць праблемы, змяніла свае падыходы, чым у пэўнай ступені зняла вастрыню сітуацыі.

* * *

**Генерал-маёр В. ЛЕПЯШЫНСКІ, начальнік упраўлення інжынерных войскаў Міністэрства абароны:**

— Канкрэтных планаў мы не распрацоўвалі. Рашэнне аб правядзенні вучэнняў адменена. Вы спазніліся з пытаннямі на дваццаць гадоў!

*— Калі гэта адбылося? Грамадскасць жа нічога не ведае, і гэта дрэнна.*

— Прыкладна ў той тэрмін, калі мы павінны былі прадставіць свае прапрацоўкі, у тыя дні Прэзідэнт якраз і адмяніў ранейшае рашэнне.

Зноў жа, ад сябе дададзім: пры такім, з дазволу сказаць, «інфармаванні» зацікаўленай грамадскасці сапраўды можна было б адстаць ад падзей на тыя самыя «дваццаць гадоў». Аднак у гэтым канкрэтным выпадку ні пра якое адставанне не можа быць і гаворкі. Напрыклад, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па праблемах чарнобыльскай катастрофы В. Хоміч прытрымліваецца крыху іншай думкі, а менавіта: новае рашэнне Прэзідэнта з'явілася амаль на месяц пазней, чым лічыць генерал, — бліжэй да сярэдзіны кастрычніка. У верасні ж той жа генерал-маёр В. Лепяшынскі звяртаўся ў камісію ВС з канкрэтнымі прапановамі па магчымых у будучым вучэннях. Значыць, падрыхтоўка да іх тады ішла?

* * *

**Гісторыя гэтая, безумоўна, вельмі павучальная, і ёсць сэнс раскрыць яе больш падрабязна. Таму мы і запрасілі да размовы Віктара ХОМІЧА, старшыню камісіі ВС, кандыдата біялагічных навук па спецыяльнасці радыебіялогія. Гэтымі праблемамі ён займаўся больш як дванаццаць гадоў яшчэ да чарнобыльскай катастрофы, апошні ж дзесятак гадоў, да прыходу ў парламент, ён прысвяціў менавіта пытанням радыеэкалогіі.**

*— З самага пачатку, Віктар Кірылавіч, я папрасіў бы вас абмаляваць, так сказаць, тэатр дзеянняў, які быў вызначаны для правядзення магчымых вучэнняў інжынерных войскаў.*

— У зоне адсялення, што прылягае да 30-кіламетровай зоны адчужэння вакол ЧАЭС, уключаючы і яе саму, каб без ад'ехаўшых жыхароў гэтыя мясціны не засталіся «безгаспадарнымі», і па іншых важных прычынах быў створаны Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік. Ён ахоплівае тэрыторыю зоны адсялення трох раёнаў Беларусі — Хойніцкага, Брагінскага і Нараўлянскага. Між іншым, я адпрацаваў у гэтых месцах дзесяць гадоў, калі ўзначальваў Гомельскую абласную праектна-пошукавую станцыю хімізацыі. Сярод іншых пытанняў наша ўстанова займалася і праблемай аховы навакольнага асяроддзя.

Мы з вамі будзем гаварыць менавіта аб праблемах на тэрыторыі запаведніка. Якраз гэтыя мясціны наведаў Прэзідэнт у час той жнівеньскай паездкі — пачаў з кантрольна-прапускнога пункта Майдан, а потым аб'ехаў выселеныя вёскі Дронькі, Аравічы, Бабчын, Краснаселле. У ліку тых, хто яго суправаджаў, быў і я.

*— Тады вам лёгка расказаць пра тое, з чым сутыкнуўся Прэзідэнт у час паездкі.*

— Палескі запаведнік — гэта арганізацыя, у якой працуе больш як 700 чалавек. Там вырошчваюць сельгаспрадукцыю, вядуць навуковыя даследаванні, работы па захаванню запаведнага рэжыму.

Прэзідэнт якраз і цікавіўся станам спраў у запаведніку ў комплексе з чарнобыльскай праблемай у шырокім сэнсе слова.

Кіраўніцтва запаведніка, сярод іншых, паставіла перад Прэзідэнтам і такое пытанне: як быць з тымі дамамі і будынкамі, якія засталіся пустымі, пакінутымі вёскамі?

*— А што тут хвалюе дырэкцыю запаведніка?*

— Справа што ні на ёсць самая жыццёвая: гэтыя дамы дазваляюць хавацца рознаму цёмнаму люду — бамжам, злачынцам і ўсякай падобнай публіцы. Яны, безумоўна, выклікаюць пэўны неспакой — парушаюць запаведны рэжым, браканьераць, могуць быць «крыніцамі» пажараў, магчыма, і разбойных нападаў, ды і сваё здароўе падвяргаюць небяспецы.

У выніку размоў, што адбыліся, вызначылася думка — неабходна неяк ліквідаваць гэтыя дамы і пабудовы.

*— Тут, на маю думку, нічога асаблівага складанага няма. Сам бачыў, як у пакінутых вёсках дамы з дапамогай экскаватара і бульдозера ссоўваюць у катлаваны і закопваюць.*

— Вы, зразумела, маеце на ўвазе спецыялізаваныя прадпрыемствы — «Палессе» ў Гомельскай і «Радон» у Магілёўскай абласцях. У іх працуюць абучаныя людзі, прафесіяналы, у іх маецца спецыяльная тэхніка, дазіметрычная апаратура, яны рэгулярна праходзяць медыцынскае абследаванне — і працуюць кваліфікавана.

Так ці інакш, але ў далейшым у праграме па гэтай праблеме было намечана ліквідаваць у зоне адсялення звыш 80 населеных пунктаў — пад гэтыя аб'ёмы і задумваліся вучэнні інжынерных войскаў. Хто быў аўтарам падобных прапаноў Прэзідэнту — сказаць і ўстанавіць цяжка.

У самы першы дзень паездкі ў запаведнік кіраўнік дзяржавы, даючы інтэрв'ю карэспандэнтам, выказаў думку: тут мы правядзём вучэнні інжынерных войскаў. Я сам, як старшыня адпаведнай камісіі Вярхоўнага Савета, знаходзячыся побач, думаў, што ў мяне тады ж з'явіцца магчымасць растлумачыць Прэзідэнту сваю пазіцыю, тое, што гэтага рабіць не трэба. На жаль, такой магчымасці я не знайшоў, бо ён быў вельмі заняты.

Вядомая справа, калі бачыць на свае вочы ўсе гэтыя «безгаспадарныя» дамы, то такая першая рэакцыя, магчыма, цалкам нармальная: маўляў, чаму сапраўды не правесці тут вучэнні, «разабрацца» з гэтымі будынкамі і ліквідаваць іх? Не будзе потым і праблем з усялякімі бамжамі. Гэта ўсё зразумела, тым больш, зусім верагодна, што ў Прэзідэнта на той час поўнай інфармацыі не было.

*— Цікава, ува што абышоўся б «ваенна-экалагічны» варыянт вырашэння праблемы?*

— Калі пачалі прапрацоўваць гэтыя пытанні ў практычнай плоскасці, то ўжо на гэтай стадыі паўстала адразу некалькі праблем.

Да якіх дзеянняў прымушалі названыя падыходы? У забруджаную зону ў абавязковым парадку трэба было б увесці пэўны воінскі кантынгент — маладых, неабучаных салдат. Бетонныя будынкі спатрэбілася б падрываць, драўляныя можна спаліць — сама сістэма іх знішчэння гэта і прадугледжвала. Пачалася прапрацоўка неабходных разлікаў.

У гэтым былі задзейнічаны ўсе названыя ў дакуменце міністэрствы і ведамствы. Яны працавалі на тэрыторыі запаведніка, з улікам шчыльнасці забруджвання рыхтавалі пералік пакінутых населеных пунктаў, што намячаліся да ліквідацыі. Больш таго, наколькі мне вядома, меўся і зварот да прэм'ер-міністра М. Чыгіра з просьбай выдзеліць на правядзенне акцыі 80—90 мільярдаў рублёў — такую прыкладна лічбу паказалі разлікі зацікаўленых ведамстваў.

З боку Міністэрства абароны да нашай камісіі было толькі адно пытанне, з якім звярнуўся генерал-маёр В. Лепяшынскі: патрабавалася ўзгадненне наконт таго, каб усяму вайсковаму кантынгенту, які будзе ўдзельнічаць у вучэннях, была прадастаўлена і заканадаўча аформлена магчымасць атрымаць статус ліквідатара. Падыход, падкрэслю, абсалютна правільны.

Калі мы ў сябе ў камісіі потым атрымалі ўжо падпісаны «Пратакол даручэнняў», я вырашыў удакладніць сітуацыю, аднак дазваніцца да Прэзідэнта не ўдалося — па той жа прычыне яго вялікай занятасці. Змог зрабіць гэта ў самім запаведніку, у Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях. Ведаючы таксама пазіцыю Мінабароны, пераканаўся: ідзе самая сур'ёзная падрыхтоўка да вучэнняў.

Што яшчэ заставалася рабіць? Таму я і выступіў у пачатку верасня з трыбуны сесіі Вярхоўнага Савета (сутнасць выступлення выклаў потым і ў газетнай публікацыі). У асноўным яно было скіравана на тое, каб звярнуць увагу кіраўніка дзяржавы на асноўны момант, давесці да яго ведама: праводзіць такія вучэнні на тэрыторыі Палескага запаведніка ні ў якім разе нельга.

*— Пытанне, Віктар Кірылавіч, у чымсьці і наіўнае, але тым не менш: ці не час ужо нам, пасля дзесяці гадоў постчарнобыльскага жыцця, калі мы ўжо шмат ведаем і ўмеем, падыходзіць да гэтых праблем толькі з навукова абгрунтаваных пазіцый?*

— Між іншым, пытанне далёка не такое ўжо і наіўнае. Яно якраз прынцыповае. І ў гэтай канкрэтнай сітуацыі адказ просты: дзейнічаюць непрафесіянальныя падыходы, адсюль — такая ж непрафесіянальная ацэнка праблемы і яе магчымых рашэнняў.

Я асабіста не стаў бы папракаць Прэзідэнта — адзін чалавек усё ведаць не ў стане. Але ж у яго ёсць памочнікі, саветнікі, у прыватнасці, па чарнобыльскай праблематыцы. Яны іншы раз імкнуцца падаць кіраўніку свае думкі, разуменне пытання ў нейкай «кампетэнтнай упакоўцы». А вось кампетэнтнасці часта якраз і нестае, бо не ўсе глыбока ведаюць праблему, не валодаюць матэрыялам. Самае сумнае, што некаторыя такія памочнікі проста не ўмеюць выслухоўваць думку прафесіянальна падрыхтаваных спецыялістаў, арыентуюцца толькі на свае веды. А наколькі яны грунтоўныя?

У той паездцы Прэзідэнта ў зону адсялення суправаджаў адзін з яго памочнікаў, ён жа рыхтаваў праграму мерапрыемства. Я не магу скардзіцца на адсутнасць увагі да сябе асабіста з боку Прэзідэнта, паколькі яго праграма наведвання зоны адсялення і так была перагружаная. Але ж, як старшыня парламенцкай Камісіі па праблемах чарнобыльскай катастрофы, я і на тым этапе, і пазней неаднаразова звяртаўся да тых жа памочнікаў: паколькі я дастаткова ведаю чарнобыльскія праблемы (у гэтых мясцінах — у прыватнасці), то мог бы даць пэўныя парады, неабходна, каб з імі азнаёміўся і Прэзідэнт. На жаль, нічога з гэтага не атрымалася.

У нас ёсць нямала адрасоў, куды мог бы звярнуцца кіраўнік дзяржавы, — скажам, у Нацыянальную камісію па радыяцыйнай абароне, да яе старшыні прафесара У. Цярнова, у НДІ радыебіялогіі, да яго дырэктара, акадэміка Я. Канаплі, у НДІ радыяцыйнай медыцыны. Там выказалі б свае меркаванні, менавіта кампетэнтныя. Калі б гэта адбылося да складання «Пратакола даручэнняў», то і дакумент меў бы крыху іншы выгляд — ва ўсякім разе, пункта 1.6 у ім не было б.

Неўзабаве, як мы бачым, гэты пункт усё-такі адмянілі — відаць, прыслухаліся да думкі вучоных і спецыялістаў. Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку якраз і характарызуе ў падобных сітуацыях уменне змяніць падыход, хутка адрэагаваць, каб прыняць правільнае рашэнне. Думаю, што сціплую лепту ў змяненне сітуацыі ўнеслі і мае намаганні — выступленне на сесіі ВС, афіцыйнае пісьмо, пасланае Прэзідэнту.

*— Але каб рашэнне на такім узроўні было зменена, неабходны вельмі важкія аргументы. Чым вы аргументавалі сваю пазіцыю?*

— Адразу трэба дакладна ўсім усвядоміць: размова ідзе пра запаведнік, запаведную зону — і гэтым сказана вельмі многае. У ім маецца дастатковая колькасць флоры і фауны, якія занесены ў Чырвоную кнігу, — і нацыянальную, і міжнародную. Усё гэта мы маглі б знішчыць!

А ўзяць міжнародны аспект? Запаведная зона «жалезабетоннай» граніцы, напрыклад, з Украінай не мае. Значыць, для правядзення вучэнняў неабходна ўзгадненне з суседняй краінай. А яна, відавочна, запярэчыла б. Прэцэдэнты ўжо ёсць.

Трэба ўлічваць і вострае псіхалагічнае ўспрыманне магчымай акцыі насельніцтвам прылеглых да запаведніка раёнаў. Грамадскасць цяпер дастаткова ведае з газетных публікацый, скажам, пра перанос радыенуклідаў пры пажарах у лесе. Хоць гэтыя пераносы не такія ўжо і значныя, аднак людзі даўно «падрыхтаваныя» да таго, што ў выніку выбухаў і пажараў узнімецца ледзь не велізарная радыеактыўная хмара.

Што датычыцца маладых неабучаных салдат, якія, што зусім верагодна, маглі б працаваць у моцна забруджанай зоне, то яны да гэтага прафесіянальна не падрыхтаваныя — ужо толькі пагэтаму іх нельга туды накіроўваць. Няўжо трэба пладзіць (прычым свядома!) новых ліквідатараў, магчыма, хворых у будучым людзей — і, галоўнае, без асаблівай патрэбы? Мы неаднаразова папярэджвалі, што ў выніку магчымы пэўныя сацыяльна-палітычныя праблемы, калі пачнуць стварацца грамадскія камітэты салдацкіх маці ў абарону сваіх сыноў ад радыяцыі, пойдуць звароты і пратэсты ў Мінабароны і г. д.

Пра рэакцыю сусветнай грамадскасці, міжнародных экалагічных арганізацый няма чаго і гаварыць — яна была б рэзка адмоўнай.

Маюцца і навуковыя аспекты праблемы. Адзін з галоўных неаднаразова ўзнімаўся міжнароднымі экспертамі — японцамі, амерыканцамі, французамі. Ім хацелася б ведаць, як ідзе працэс старэння будынкаў пры хранічным радыеактыўным апраменьванні, для гэтых назіранняў запаведнік — унікальны палігон. Замежная навука хацела б тут супрацоўнічаць з намі, укладваць у справу немалыя сродкі. Патрэбна гэта і айчыннай навуцы. Навошта ж тады ўсё бяздумна знішчаць?

Другая праблема звязана са стварэннем Супольніцтва Беларусі і Расійскай Федэрацыі. У падпісаным прэзідэнтамі нашых дзвюх краін дагаворы маецца пункт пратакола, у якім гаворыцца, што расійскі бок выдзяляе грошы на выкананне работ па рэканструкцыі доз радыеактыўнага апраменьвання, якое атрымалі людзі з зоны адсялення ў Беларусі. Гэта не толькі важны навуковы аспект — ён таксама медыцынскі, сацыяльны, бо размова наогул ідзе аб здароўі вялікай групы насельніцтва. А каб рэканструяваць гэтыя дозы, неабходна, каб забруджаныя мясціны і пабудовы заставаліся менавіта ў такім выглядзе, які ім «надалі» ядзерная катастрофа і яе наступствы.

*— Не ведаю, як у вас, Віктар Кірылавіч, а ў мяне — цвёрдая ўпэўненасць: хто-ніхто прад'явіць прэтэнзіі, што, маўляў, крытыка гучыць, а дзе канкрэтныя прапановы?*

— Я поўнасцю згодны з нашым Прэзідэнтам у тым, што ў нас усюды павінен быць парадак. Менавіта адсутнасць элементарнага парадку на тэрыторыі запаведніка, наогул у зоне адсялення і вызначае ўзнікшую праблему.

Трэба перш за ўсё бачыць, што тут можа быць толькі комплексны падыход, з улікам мноства пытанняў, і ў першую чаргу — улікам статусу запаведніка.

Другое. Улічваючы складаную там абстаноўку, проста неабходна правесці на гэтай тэрыторыі дадатковыя навуковыя пошукі — наколькі ў сапраўднасці яна забруджана, якія канкрэтныя ўзроўні забруджвання. Зразумела, потым скласці новыя радыяцыйна-экалагічныя карты. У абавязковым парадку правесці скрупулёзную інвентарызацыю дамоў і пабудоў, усіх населеных пунктаў. І толькі тады, калі ў руках будуць усе падрабязныя матэрыялы, можна будзе прымаць адказнае рашэнне.

Частку тэрыторыі запаведніка хутчэй за ўсё трэба будзе вяртаць у народнагаспадарчы абарот — пра гэта даволі дакладна гавораць навуковая даныя, якія мы маем. Зразумела — са спецыфічным рэжымам, пэўнымі абмежаваннямі, спецыяльным выкарыстаннем зямель. Гэта тая перспектыва, якой мы так ці інакш будзем вымушаны займацца ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі.

Калі ж і прыйдзецца займацца знішчэннем і пахаваннем забруджаных радыенуклідамі дамоў, то для гэтага трэба прыцягваць спецыялізаваныя прадпрыемствы, прафесіянальна падрыхтаваных людзей (а яны ў Беларусі ёсць) — і працаваць у нармальным рэжыме, без выбухаў і пажараў, без «шуму і пылу».

На вялікі жаль, чарнобыльская праблематыка часта падаецца ў нас высокаму кіраўніцтву ў даволі спрошчаным выглядзе — аб чым сведчыць і разбіраемая сітуацыя. Здаецца, час ужо ўсім нам, хто мае адносіны да чарнобыльскай праблемы, падыходзіць да яе толькі з прафесіянальнымі крытэрыямі.

**Публікацыю падрыхтаваў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**



**Пакуль ва ўнутранай палітыцы Беларусі дамінуюць міжусобіцы, работнікам знешнепалітычнага ведамства даводзіцца не толькі тлумачыць іх прыроду міжнароднаму супольніцтву, але і распавядаць пра іншыя бакі жыцця нашай краіны. І гэта робіцца ці не ў першую чаргу. Бо, на жаль, часта мы забываем, што Беларусь — маладая краіна. Вельмі маладая. Невядомая свету. Днямі ў Мінск пасля службовай паездкі ў краіны Азіяцка-ціхаакіянскага рэгіёна вярнуўся першы намеснік міністра замежных спраў Валерый Цэпкала. Эксклюзіўнае інтэрв'ю ён даў нашай газеце.**

## *Валерый ЦЭПКАЛА:*

# «Беларусь — невялікая краіна. Таму павінна кіравацца глабальнымі катэгорыямі»

**— Валерый Вільямавіч, прыкладна два з паловаю гады назад убачыла свет ваша кніга «Беларусь — дарогаю Дракона», дзе вы — на той час яшчэ не з'яўляючыся дыпламатычным работнікам такога рангу — расказалі пра вопыт краін Азіяцка-ціхаакіянскага рэгіёна. Пры гэтым пісалі, што іхні шлях вельмі прымальны для Беларусі. Ці стала цяперашняя паездка пацвярджэннем колішніх меркаванняў?**

— Я па-ранейшаму лічу, што вопыт краін гэтага рэгіёна для нас самы прымальны і аптымальны. Сёння, параўноўваючы дзяржавы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы з краінамі Паўднёва-Усходняй Азіі, большасць палітолагаў і эканамістаў выказваецца не на нашу карысць. Напрыклад, сумарны інвестыцыйны аб'ём Малайзіі і Сінгапура, дзе жыве толькі каля 20 мільёнаў чалавек, аднолькавы з аб'ёмам інвестыцый, якія атрымліваюць краіны Усходняй і Цэнтральнай Еўропы плюс усе рэспублікі былога СССР. Дарэчы, яны называюць сябе «хуткімі», агрэсіўнымі і растучымі», маючы на ўвазе рух капіталу, актыўную палітыку, якую праводзяць іх кампаніі. Але казаць пра выкарыстанне вопыту — адна праблема. У іншай плоскасці знаходзіцца пошук узаемных інтарэсаў. Вядома, мы многаму можам павучыцца, але не трэба забываць — у Беларусі ёсць і тое, чым можна гандляваць. Акрамя Сінгапура, гэтыя краіны называюцца «развіццёвымі», таму тут яшчэ лічаць грошы. Не дзіўна, што гатоўнасць да гандлю і стварэння сумесных прадпрыемстваў выказвалася на ўсіх без выключэння ўзроўнях. А гутарыў я найчасцей з міністрамі замежных спраў, прамысловасці і гандлю. Неабходна наяўнасць дагаворна-прававой базы, паколькі там дзяржава па-ранейшаму моцна ўплывае на эканамічную дзейнасць. Скажам, штрафы рэгулююць чысціню і парадак. Кінуў на сінгапурскі тратуар акурак — плаці 500 долараў, жуйку — 1000.

**— Раскажыце больш падрабязна пра дасягнутыя дамоўленасці.**

— Пачну з Інданезіі. Між іншым, гэта даволі вялікая краіна, якая месціцца на архіпелагу плошчай, роўнай прыкладна ўсёй Еўропе, і з насельніцтвам каля 200 мільёнаў чалавек. Зараз яны распрацоўваюць нацыянальны праект па грузавому аўтабудаўніцтву. Таму моцна зацікавіліся «БелАЗам» і заводам колавых цягачоў. Ішла гутарка пра стварэнне сумеснага прадпрыемства па зборцы «БелАЗаў» у Інданезіі. Гэта даволі перспектыўны — большы за расійскі — рынак. Што датычыцца Сінгапура, то ён з Беларуссю ўжо мае сем сумесных прадпрыемстваў і два — са 100-працэнтным сінгапурскім капіталам. У нашых узаемаадносінах галоўнае — інвестыцыйнае супрацоўніцтва. Сінгапур — фінансавы цэнтр Паўднёва-Усходняй Азіі. І заканадаўства ў гэтай сферы вельмі строгае. Калі пацярпеў крах банк «Беррынгс», а вінаваты ў гэтым чалавек збег у Германію, сінгапурцы запатрабавалі яго і пасадзілі ў турму. Гэтым паказалі ўсяму свету фінансавую стабільнасць. Трэцяя краіна — Тайланд, дзе таксама выказалі згоду на зборку «БелАЗаў». Быў прапанаваны цікавы варыянт на пастаўку натуральнага каўчуку «Белшыне», а ў абмен яны гатовы браць трактары «Беларусь».

**— А як наогул у Азіі ўяўляюць Беларусь?**

— Асноўная наша задача — заахвочванне найбольшай колькасці людзей да дзелавых паездак за мяжу. Гэта паказчык актыўнасці грамадства. Сёння ж Беларусь успрымаецца як адсталая аграрная краіна. У свой час прэм'ер-міністр Сінгапура падштурхоўваў землякоў да пошуку дзелавых партнёраў на Захадзе, абвінавачваючы іх у празмернай сарамлівасці. Беларусь — невялікая краіна. Таму павінна кіравацца глабальнымі катэгорыямі. Яна не можа быць зарыентавана толькі на ўнутраны рынак, не павінна жыць аднымі ўнутранымі праблемамі. Стратэгічны накірунак — заахвочванне стварэння ў Беларусі замежных фірмаў. Цікавасць да краіны прама прапарцыянальная наяўнасці менавіта прадстаўніцтваў замежных фірмаў і пасольстваў. І наадварот. Часта можна пачуць, што няма ў бюджэце грошай на ўтрыманне ў нейкай краіне пасольства. Але ж там, дзе ўзнікне дыпламатычная кропка, пачынаюць ведаць краіну, яе эканамічныя магчымасці, там нараджаецца сапраўднае супрацоўніцтва, што ўскосна ўплывае на тавараабарот, імідж дзяржавы, у рэшце рэшт, на нармальнае функцыянаванне айчынных прадпрыемстваў. Аляксандр Пушкін некалі казаў пра рускіх людзей: «Мы — ленивы и не любопытны». Гэта цалкам датычыць і беларусаў. Бо мы нікуды не ездзім. Я ўжо казаў, што той жа Сінгапур мае ў нас 9 прадстаўніцтваў. Уявіце іх колькасць у іншых краінах.

**— Мне здаецца, паралелі тут не зусім апраўданыя. Розная форма ўласнасці.**

— Дзяржава не павінна займацца збытам тавару. І ўвогуле там, як правіла, дырэктар не з'яўляецца ўладальнікам прадпрыемства. Ён працуе па найму савета акцыянераў. Вядома, стварыць належныя ўмовы для працы — іншая справа. Але пакуль мы будзем праядаць свае грошы, толку не дачакаемся. І яшчэ. У Інданезіі давялося абмяркоўваць узаемасувязь палітыкі і эканомікі. Міністр гандлю сказаў: «Палітыкай мы ўсе некалі моцна захапляліся. І гэта адкідвала эканамічнае развіццё краіны. 20 гадоў таму вырашылі першачарговую ўвагу ўдзяліць мадэрнізацыі эканомікі. І ўсё пайшло на лад». Безумоўна, дыскусіі там вядуцца. Але з нагоды, напрыклад, поўнай камп'ютэрызацыі гатэляў, альбо якім чынам спрасціць працэдуру мытнага афармлення дакументаў у портах ці на мяжы. Таму па эканамічнаму ўзроўню Сінгапур ужо перагнаў Англію і Францыю. У Беларусі няма менеджэраў і кіраўнікоў. Ёсць інжынеры. Каб заваяваць міжнародныя рынкі збыту, трэба развіваць прадпрымальніцтва.

**— Але ж нельга параўноўваць менталітэт беларуса і азіята.**

— Сёння мы гаворым пра арыентацыю на Швейцарыю, Швецыю. Але гэта разважанні Манілава, не падмацаваныя нашымі рэальнымі дзеяннямі. Мы — дамаседы. Мы не ўспрымальныя да чужога — як станоўчага, так і адмоўнага вопыту. «Драконы» таксама калісьці не вызначаліся актыўнасцю. Цяпер жа кіруюцца псіхалогіяй індывідуалізму. Пануе прынцып: акрамя сябе нельга ні на кога спадзявацца. Я сам павінен працаваць. Стварыць асабісты дабрабыт не дапаможа ні Прэзідэнт, ні прэм'ер-міністр. Ніхто. Уласна кажучы, дзяржава і не павінна дапамагаць. Чалавек стварыў дзяржаву, каб лягчэй рэгуляваць свае адносіны з іншымі людзьмі, а не наадварот.

**— Нядаўна мне даводзілася чытаць нататкі пісьменніка Адама Глобуса, які пабываў у Бангкоку. Ён выказаў думку, што ў Азіі чалавечае жыццё нічога не каштуе.**

— Чым краіна большая, тым меншая каштоўнасць чалавечага жыцця. У Швецыі ў 1918 годзе падчас рэвалюцыйнага канфлікту былі забіты чатыры рабочыя. На шведаў гэта падзейнічала, як цэбар вады. Не, вырашылі, мы — маленькая нацыя, маленькі народ, таму не можам дазволіць смерці нават аднаго грамадзяніна з-за нядздольнасці дамовіцца. Думаю, каштоўнасць чалавечага жыцця залежыць не ад нацыі, а ад краіны.

**— Калі ўжо закранулі гэту тэму, то можа драма Беларусі — у адсутнасці нацыянальнай еднасці? Так як шведы мы не зможам дамовіцца...**

— Пошук нацыянальнай еднасці, бясспрэчна, важны фактар. Але ў тых жа сінгапурцаў ці інданезійцаў няма нацыі ў тым сэнсе, у якім мы яе разумеем. У іх — супольнасць эканамічных інтарэсаў. Хто жыве ў Сінгапуры? Выгнаныя з Малайзіі кітайцы, эмігранты-тамілы з Індыі, інданезійцы і тайцы. З гэтай зямлёй пароднены толькі малайцы. Аднак агульнасць эканамічных інтарэсаў іх зблiжае нават болей, чым цэласнасць этнічнай групы.

**— У нас чамусьці так не выходзіць...**

— Бо людзі не звязаны менавіта эканамічнымі інтарэсамі. Дазволю сабе перанесці на сучаснасць праблематыку Бібліі. Першы сын Евы ўбачыў свет не без граху. Умяшаўся змей. Таму Каін быў гультаём. Пасля ў Адама з Евай нарадзіўся Авель — працавіты, добразычлівы селянін. На радасць бацькам і Богу. Злосць Каіна да больш спрытнага і ўдалага брата вымусіла пайсці на забойства. Каін знішчыў Авеля... як клас. Бог запытаў Каіна: «Дзе брат»? Той адказаў, што не ведае. Тады Бог кажа: «Кроў забітага табой брата кліча мяне з зямлі. Я пакараю цябе трыма праклёнамі». Першы праклён. Будзе Каін ізгоем на зямлі. І не было больш ганебнага відовішча, чым убачыць Каіна ў загранкамандзіроўцы. Усяму дзівіцца, а купіць няма за што. Паводле другога праклёну, зямля, напоеная крывёю Авеля, перастае Каіна карміць. І сапраўды, краіна, зямля якой карміла ўсю Еўропу, павінна была імпартаваць прадукты. І трэці праклён — будзеш выгнаны на Усход і там станеш весці ганебнае існаванне. Так і стала за грэх раскулачвання, за ліквідацыю лепшых работнікаў зямлі. За грэх, што сам не спрабаваў нічога зрабіць, а лічыў грошы іншых і забіраў чужое. Мы ўсе ў адпаведнасці з генеалогіяй — спадкаемцы Каіна. Але Ісус Хрыстос выкупіў той грэх сваёй ахвярай. Ды недзе мусіў з'явіцца народ, які паказаў усяму свету, што падлік чужых грошай, забойства самастойных людзей — шлях у нікуды. І на гэтым народзе былі тры Каінавы праклящці. Можа цяпер мы знаходзімся ў стане ўваскрэшання. Але гэта павінна быць справай нашых рук, з дапамогай ломкі ўласнай псіхалогіі. Калі перамажам «Каінаў комплекс», тады народзіцца нацыя, народ.

**— Вернемся да паездкі. Акрамя дзелавых сустрэч, напэўна, нешта ўразіла на бытавым узроўні.**

— Сінгапур. Там пануе меркаванне: закон — гэта святое. Я ўжо казаў пра штрафы за кінутыя акурак ці жуйку. Ёсць і публічнае пакаранне палкамі. Пры доктару і «хуткай дапамозе», ад трох да пяці ўдараў. Калі пасля аднаго страціў прытомнасць, то кару пераносяць, але абавязкова выконваюць. Паказальны прыклад. Амерыканскі студэнт размаляваў чужую машыну. Суд прысудзіў пяць ударaў. Званіў сам Біл Клінтан з просьбай адмяніць пакаранне. Прэм'ер-міністр Сінгапура кажа: «Наш студэнт так зробіць у вас — карайце таксама». На словы, што ў Штатах няма гэткай формы пакарання, быў адказ: «Дарэмна. Вельмі эфектыўны сродак». Быў, праўда, паўторны суд. Улічваючы зварот самога прэзідэнта ЗША, зменшылі колькасць удараў... да трох. Паколькі такі варварскі ўчынак патрабаваў адпаведнай рэакцыі. Некалі тут паставілі задачу — зрабіць самыя чыстыя прыбіральні. Сапраўды, усё блішчыць, месцяцца нейкія кветкі, стаяць тэлевізары. Правялі рэйтынг. Пасля Швейцарыі Сінгапур заняў другое месца. Класіфікацыя была арыгінальнай: добрыя прыбіральні, кепскія і гэтак далей. Апошнія ў спісе — Расія і Кітай. З надпісам — «невыносныя». Дарэчы, праблему чысціні прыбіральняў абмяркоўвалі на ўзроўні ўрада, парламента, бо лічаць, што гэта — паказчык культуры. Уразіла, як у ліфце кітайцы між сабой размаўляюць па-англійску. Хаця гэта мова не дзяржаўная, на бытавым узроўні ёю карыстацца, аказваецца, больш зручна.

**— Магчыма, у бліжэйшы час паўстане пытанне аб адкрыцці ў гэтым рэгіёне пасольства Беларусі?**

— Так. У крайнім выпадку, мы будзем рэкамендаваць Прэзідэнту і ўраду гэта зрабіць. Паўтару сказанае ў пачатку нашай гутаркі: затраты на іх утрыманне прынясуць нашмат больш дывідэндаў.

**Гутарыў**
**Міхась ТАЛОЧКА.**

***ДУМАЙ, НАРОД, ДУМАЙ!***

# ШТО СВЯТКАВАЦЬ НАМ, БЕЛАРУСАМ?

У нядаўнім інтэрв'ю карэспандэнту маскоўскай «Независимой газеты» Прэзідэнт А. Лукашэнка, гаворачы пра ініцыіраваны ім рэферэндум, сказаў, у прыватнасці: «Второй вопрос — о праздновании Дня независимости. Супернационал-реваншисты во главе с Шушкевичем протащили в свое время день 27 июля, когда был подписан указ о старой символике. Но народ это не воспринял, и я его поддерживаю. Я считаю, что день освобождения Белоруссии от фашистских захватчиков — 3 июля — должен стать Днем независимости».

«Звязаным з фашызмам» назвала чамусьці ў сваім выступленні Дзень незалежнасці адна з удзельніц Усебеларускага сходу.

Таму мусім нагадаць, як было шэсць гадоў назад на самай справе, як, у выніку якіх абставінаў 27 ліпеня стала нацыянальным святам — Днём незалежнасці.

Светлым летнім днём 27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет рэспублікі дванаццатага склікання прыняў на сваёй першай сесіі — пасля ўсебаковага разгляду і працяглай дыскусіі — Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь (на той момант — яшчэ БССР). Тую самую Дэкларацыю, якая «ўрачыста абвяшчала поўны дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі». Тую самую Дэкларацыю, дзе былі сфармуляваны прынцыпы, якія забяспечваюць палітычныя, эканамічныя і прававыя гарантыі самастойнасці рэспублікі. Тую самую дэкларацыю, якой у жніўні 1991 года быў нададзены статус канстытуцыйнага закона і якая, па сутнасці, стала прататыпам, праобразам нашай новай, дзеючай сёння Канстытуцыі.

Была прынята Дэкларацыя, быў прыняты важны гістарычны акт. І тут жа, на тым жа пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета была прынята і Пастанова наступнага зместу: «Надаючы гістарычную важнасць прыняццю Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР 27 ліпеня 1990 года, Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі пастанаўляе:

Лічыць дзень 27 ліпеня Днём абвяшчэння Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР (Днём незалежнасці) і адзначаць яго надалей як нацыянальнае свята Беларусі. Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. Дзямянцей. 27 ліпеня 1990 года. г. Мінск».

Так што, як бачым, адпаведная пастанова прымалася ўсім Вярхоўным Саветам і прымалася ў адпаведнасці з яго рэгламентам і ў межах яго кампетэнцыі, і ніякія «фашысты» не мелі ніякага дачынення да гэтага рашэння заканадаўчага органа.

Далей. Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце і Пастанова аб абвяшчэнні 27 ліпеня нацыянальным святам — Днём незалежнасці былі ўспрыняты беларускім народам як важныя, лёсавызначальныя дакументы, як знак таго, што ён, беларускі народ, атрымлівае гістарычны шанц стаць гаспадаром у сваім доме і заняць «свой пачэсны пасад між народамі», заняць, інакш кажучы, сваё месца як паўнапраўны член сусветнай супольнасці. І, натуральна, што дзень 27 ліпеня стаў не толькі «чырвоным днём календара», але і набыў статус нашага галоўнага дзяржаўнага свята. Ён пачаў укараняцца ў нашай грамадзянскай свядомасці, увайшоў у энцыклапедычныя даведнікі, гістарычныя працы, школьныя падручнікі. Згодна з міжнароднай дыпламатычнай традыцыяй, менавіта ў гэты ліпеньскі дзень лідэры замежных краін, вядомыя палітычныя і грамадскія дзеячы свету скіроўвалі позіркі да незалежнай Рэспублікі Беларусь і слалі цёплыя прывітальныя тэлеграмы на імя яе Прэзідэнта і іншых кіраўнікоў.

І вось мы даведваемся, што на чарговы рэферэндум выносіцца пытанне аб... пераносе Дня незалежнасці на іншы дзень, Дзень вызвалення ад гітлераўскіх захопнікаў, аднаго свята на другі святочны дзень. Першая рэакцыя — неўразуменне, неўразумелыя пытанні. Як гэта — узяць ды адну святочную дату налажыць на другую, адну замяніць (падмяніць) другой? Яны ж народжаны рознымі па свайму палітычнаму сэнсу падзеямі і адрозніваюцца сваім сутнасным значэннем. Як гэта — узяць ды адвольна падправіць, змяніць «метрыку» — у дадзеным выпадку пасведчанне аб нараджэнні суверэннай, незалежнай Рэспублікі Беларусь? Па загсаўскіх правілах такія падробкі караюцца па закону.

Дарэчы, у сувязі з планамі пераносу (фактычна — скасавання) Дня незалежнасці ўзнікае наступная цяжкавырашальная прававая калізія. Пастанова аб абвяшчэнні 27 ліпеня нацыянальным святам з'яўляецца, як мы бачылі, неаддзельнай ад Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, вынікае з апошняй. Дапусцім, што большасць электарату прагаласуе ўсё ж за перанос. Дапусцім, што Вярхоўны Савет згодзіцца адмяніць дзеянне самой пастановы. Ну а як быць у такім разе з Дэкларацыяй аб суверэнітэце? Выходзіць, што яе таксама трэба адмяняць? І вяртацца да таго статус-кво, таго палітыка-прававога становішча, якое існавала ў рэспубліцы да прыняцця Дэкларацыі?

І яшчэ адно, у гэтай жа сувязі, пытанне. Калі пераносіць Дзень незалежнасці на 3 ліпеня і абвяшчаць апошні Днём рэспублікі, то нельга ў такім разе не аглянуцца ў мінулае і не прыгадаць, што ў беларусаў ужо ёсць два іншыя падобныя дні — дзень 25 сакавіка, абвешчаны ў 1918 годзе ўрадам БНР, і дзень 1 студзеня, абвешчаны Мясніковым і Жылуновічам (Цішкам Гартным) у 1919 годзе. Абодва гэтыя дні маюць, кожны па-свойму, дачыненне да ўтварэння рэспублікі і ў выпадку скасавання 27 ліпеня як Дня незалежнасці могуць прад'явіць сваё права на «вакантнае месца». (Дарэчы, камуністы ўжо загаварылі пра гэта.) І ў выніку ў краіне можа скласціся такая сітуацыя, што розныя слаі і сацыяльныя групы будуць — у залежнасці ад узросту, узроўню нацыянальнай свядомасці і палітычнай арыентацыі — адзначаць асобна свой Дзень рэспублікі. Хто 1 студзеня, хто 25 сакавіка, хто 3 ліпеня, а хто... 27 ліпеня. Такое вось наступства маючага адбыцца плебісцыту няцяжка прадказаць.

Не можам мы, не маем маральнага права не заступіцца і за дзень 3 ліпеня, за свята вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх акупантаў. Не можам не выказаць сваіх адносінаў да намеру «перахрысціць» гэты святочны дзень. Думаем, што нічога добрага з гэтага намеру не атрымаецца. Так, сапраўды «3 ліпеня — Дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў стаў сімвалам мужнасці і стойкасці беларускага народа, які адстаяў цаной жыцця лепшых сваіх сыноў і дачок, сваю незалежнасць, духоўнасць, культуру, сваю зямлю» (з рэзалюцыі Усебеларускага сходу). Так, сапраўды, гэты дзень вось ужо больш за пяцьдзесят гадоў адзначаецца як свята «са слязамі на вачах», са змешаным пачуццём болю і радасці, смутку і ўдзячнасці. Асабліва гэта датычыцца насельнікаў старэйшага ўзросту, у тым ліку і нашага пакалення, дзяцінства якога было абпалена вайной і якое добра помніць тыя летнія дні, калі на пыльных дарогах і вуліцах з'яўляліся «нашы» і прынасілі, як найлепшы дар, вызваленне. Дык навошта ж, паўстае пытанне, перайначваць гэтае дарагое для народа свята? Для чаго пераймяноўваць яго, пазбаўляць яго слова «вызваленне»? Сутыкаць яго з іншым святам?

Думаем, што вызваліцелі, у прыватнасці тыя з іх, хто цаной крыві і цаной сваіх жыццяў вызвалялі Беларусь ад акупантаў (а сярод іх, зазначым, былі не толькі беларусы, а сыны і дочкі іншых народаў былога Саюза) маюць права на тое, каб устаноўленае аднойчы ў іх гонар свята заставалася непарушным і адзначалася сёння і заўсёды пад сваёй першапачатковай назвай — Дзень вызвалення. Святое і святочнае: другое вынікае з першага. Святасць абавязвае. А сімвалы таму так і называюцца, што ўзнікаюць навечна і не падлягаюць пераацэнкам.

Мы не ставілі сабе за мэту спыняцца на маючым адбыцца рэферэндуме ў цэлым. Хаця для нас несумненна, што калі ён усё ж адбудзецца і галасаванне будзе станоўчым, то вынікі яшчэ больш згусцяць, пагоршаць сацыяльна-палітычную атмасферу ў рэспубліцы, звузяць прастору для грамадскай дзейнасці нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі, што ў сваю чаргу адмоўна адаб'ецца на міжнародным аўтарытэце Беларусі як самастойнай дзяржавы. Хіба можна, сапраўды, чакаць станоўчага рэзанансу ў выпадку пераносу (лічы — скасавання) нашага галоўнага нацыянальнага свята, звязанага з лёсавызначальнай, гістарычнай падзеяй — абвяшчэннем Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце?

Мы прывялі пераканаўчыя, здаецца, довады і не трацім надзеі, што — яшчэ ёсць час — пытанне аб пераносе Дня незалежнасці будзе выключана з ліку вынесеных на рэферэндум.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ,**
**Віктар КАВАЛЕНКА,**
**Алег ЛОЙКА.**

## ПЕРАМОЖА РАЗВАЖНЫ СЭНС

*Напярэдадні рэферэндуму хачу выказаць сваю думку па яго правядзенню і прыняццю новай Канстытуцыі. Скліканне народнага сходу сведчыць аб тым, што вы, спадар Прэзідэнт, ідзяце на прамую і адкрытую размову з народам. Асабліва цяпер, калі назіраецца процістаянне дзвюх галін улады. І ў вас няма іншага выйсця, як параіцца з народам. Паколькі мы вам у свой час даверылі кіраваць краінай, вы цяпер разлічваеце на нашу падтрымку. Правільна, самы справядлівы і галоўны суддзя — гэта народ. Яго нельга падмануць, ён бачыць і ведае, хто ёсць хто.*

*Дысцыпліна і парадак — гэта не дыктатура, а нармальнае становішча ў цывілізаваным грамадстве, дзе кожны адказвае за даручаную справу. Апазіцыя, спадар Прэзідэнт, гэта не што іншае, як зайздрасць і прага ўлады. Няхай вас пужаюць папяровымі тыграмі, а вы не здавайце сваіх пазіцый, і народ вас падтрымае. Ён адчуў, што пасля Усебеларускага сходу і рэферэндуму ім будзе горача, вось гэтая брацыя і пачала «вайну ў вярхах», стараючыся стварыць канфрантацыю паміж Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам. Нічога ўжо не атрымаецца. Пераможа разважны сэнс.*

*У свой час хадзіла прымаўка «Куй жалеза пакуль Гарбачоў». Вось і «накавалі» сабе катэджаў і замкаў. Адны купаюцца ў шампанскім, а другія збіраюць акуркі і капаюцца ў сметніцах. Трэба гэтаму пакласці канец. Людзям, якія прапрацавалі 40 і больш гадоў, трэба забяспечыць дастойную старасць, а не жабрацкае існаванне, і каб гэта было на справе, а не на паперы. Спадар Прэзідэнт, я вельмі спадзяюся, што рэферэндум вырашыць усе пытанні і расставіць усё на свае месцы, і нам будзе дадзена магчымасць жыць і працаваць на карысць усяго грамадства. У канцы свайго пісьма я жадаю вам, спадар Прэзідэнт, поспехаў у гэтай нялёгкай барацьбе, моцнага здароўя.*

г. Пінск. **К. СІДАРЧУК.**



# ЛАЎКА АЎТААМАТАРА

## ЛІКВІДУЕМ ШУМ АД КНОПКІ




У «ВАЗ-2105» кнопкі фіксацыі дзвярных замкоў нярэдка выдаюць непрыемны шум. Каб яго ліквідаваць, трэба ўклеіць у кнопку кавалак гумавай трубкі даўжынёй 8 мм са знешнім дыяметрам 9, унутраным — 5 мм, як паказана на малюнку. У ручцы для яго рассвідроўваюць дзірку глыбінёй 5—7 мм і дыяметрам 8,5 мм.

*1 — кнопка; 2 — стопарная шайба; 3 — гумавая трубка; 4 — шток.*

## ЗДЫМНІК НА ЎСЕ ВЫПАДКІ

Калі вы самастойна абслугоўваеце «Волгу» ГАЗ-24, то вялікім памочнікам вам будзе здымнік, паказаны на малюнку.

Праз дзіркі А прасоўваюць балты дыяметрам 8 мм і замацоўваюць здымнік, каб сцягнуць калодку шківа з пярэдняй цапфы каленчатага вала; дзіркі Б служаць для здымання размеркавальнай шасцерні з каленчатага вала; дзіркі В — для сцягвання калодкі вадзяной помпы; дзіркі Г — для здымання шасцерні з размеркавальнага вала; Д — для дэмантажу рулявога кола.

*На малюнку: 1 — шруба (ст. 40—45); 2 — аснова (ст. 5—20).*

Гэты здымнік таксама спатрэбіцца ўсім аўтааматарам, чый аўтамабіль забяспечаны рухавіком «Волгі».

## НАКЛАДКІ ДА «ВАСЬМЁРКІ»

Калі ў аўтамабілі «ВАЗ-2108» праз некалькі гадоў правісаюць пярэдні і задні буферы, то паміж імі і кузавам утвараецца непрыгожая шчыліна. Можна ліквідаваць гэты недахоп, шчыльна падцягнуўшы буферы да крылаў накладкамі з балтамі, як паказана на малюнку. Накладкі можна зрабіць са стальнога вугалка 10x15 мм ці дзюралевага 10x15 мм з таўшчынёй сценкі 2 мм.

Каб пластмасавыя накладкі на кузавах «васьмёрак» і «дзевятак» менш забруджваліся і лягчэй адмываліся, а таксама мелі ярка-чорны цвет, добра прамыйце іх, дайце высахнуць, а затым моцна наваксуйце чорнай ваксай для ботаў. Выгляд машыны стане больш прывабны.




*Устаноўка накладак: 1 — крыло; 2 — накладкі; 3 — шрубы М8 з гайкамі; 4 — буфер.*

## ЗРУЧНЫ НАКАНЕЧНІК

Эфектыўнасць мыцця аўтамабіля, асабліва знізу, залежыць ад напору вадзянога струменя. Каб яго павялічыць, на шланг надзяваюць розныя наканечнікі, якія звужаюць сячэнне струменя. Яшчэ лепей змываецца бруд, калі ў ваду ўводзяць паветра.

Наканечнік, паказаны на малюнку, дазволіць абысціся без кампрэсара. Паветра праз трубку засмоктваецца струменем дзякуючы эжэкцыі. Паступленне паветра можна адрэгуляваць, сплюшчваючы знадворны канец трубкі.




*Наканечнік (а): 1 — распыляльнік; 2 — трубка; 3 — трубка для паветра.*

*(б) — тэхналагічны штыр для цэнтравання трубкі. Усе дэталі медныя ці латунныя.*

**Вядзе рубрыку Уладзімір НАЗАРАЎ.**

# ДВАЦЦАЦЬ ГАДОЎ, І СЕКУНДА ДА ВЫСТРАЛУ

Кожны пісьменнік піша самога сябе — кожным сваім словам, сказаным і нясказаным, — прыхаваным да часу ў запасніках душы. Запаснікі гэтыя заўсёды багацейшыя, чым тое, што выносіцца на чарговы адкрыты суд, — ці то ў выглядзе аднаго нейкага твора, ці новай кнігі. І гэта зразумела, бо душа знаходзіцца ў стане пастаяннага папаўнення і абнаўлення — праз час, праз жыццё, праз прыроду; там няма нічога выпадковага і лішняга, туды прыходзіць усё, а выходзіць толькі запатрабаванае момантам.

З каго мастаку ствараць свой новы сусвет, як не з сябе? З сваіх душэўных і фізічных, сваіх зямных і касмічных нітак, якія ўбіраюць вопыт пакаленняў па зыходнай і ўзыходнай кроўнай радаводнай, радаводнай сяброў і суседзяў. У звычайным тлумачэнні гэты вопыт называецца лёсам, у больш высокім — талентам.

Усё сказанае мае самае прамое дачыненне да кожнага чалавека з божай іскрынкай у сэрцы і, безумоўна, да віноўніка нашай гаворкі — пісьменніка Мікалая Чаргінца, два раманы якога — «За секунду да выстралу» і «Ілоты вар'яцтва» — вылучаны Літаратурным фондам Саюза пісьменнікаў Беларусі на атрыманне Дзяржаўнай прэміі.

Больш за дваццаць гадоў Мікалай Чаргінец аддаў літаратурнай стыхіі. Узяў свой надзел і ўпарта ваюе на ім. Можна здзіўляцца настойлівасці, з якой вядзецца праца, і радавацца плёну, які яна дае. А надзел, скажам так, нялёгкі і няпросты, чэрствая зарослая няўдобіца, якую па ляноце сваёй ці па няведанні абыходзіла стараной пісьменніцкая каманда.

Ён узяўся расказаць пра жыццё, што тым ці іншым бокам судакранаецца з дзейнасцю міліцыі, узяўся за распрацоўку міліцэйскай тэматыкі. Напісаў «міліцэйскае» і славіў сябе на тым, што пачаў гаварыць шаблонамі закансерваванай крытычнай тэрміналогіі, мовай старых літаратурных вульгарызмаў. Бо ў жыцці няма абстрактных ні настаўнікаў, ні чыгуначнікаў, ні міліцыянераў ці армейцаў, бо гэта ўсяго толькі слоўнае азначэнне пэўнай прафесіі, і за кожным гэтым азначэннем схаваны канкрэтны чалавек, пра якога класік сказаў, што «гэта цэлы Сусвет».

Цяжкая і небяспечная праца ў крымінальным вышуку (а працаваў там пісьменнік шмат гадоў) давала столькі align рознага матэрыялу, аналізуючы, асэнсоўваючы і перапрацоўваючы які, ён не мог не прыйсці да высновы, што жыццё — вельмі складаная радасць і што ў ім няма падзелу на любімчыкаў і ізгояў, на сваіх і чужых, — усе розныя і ўсе разам — нават там, дзе справа патыхае крыміналам.

Чалавечы аповяд пра чалавека заўсёды выклікае цікавасць і спагаду. А тут былі яшчэ і драматургія расказа, драматургія нявыдуманага жыцця і непрыдуманых калізій. Гэта быў расказ пра тыя асяродкі, дзе рэдка абмяжоўваюцца сілай слова як галоўнага аргумента ў спрэчцы, дзе часцей за ўсё аргументам з'яўляецца мардабой, нож, рэвальвер, дзе б'юць і забіваюць, дзе рызыка перамагчы ідзе побач з рызыкай загінуць. А перамагчы трэба — і не толькі каб выйсці жывым самому, а каб уратаваць ад бяды, а часам і ад смерці іншых — тых, у каго няма не толькі кабуры з «ТТ» ці нейкага там шыла, а хто і ў страшным сне не дапускае думкі, што праблемы можна вырашаць з дапамогай сілы, а тым болей — зброі.

Анамальныя з'явы заўсёды выклікаюць цікавасць, а крымінал — хай сабе гэта будзе крадзеж ці бойка, здрада ці забойства — у любым грамадстве з'явы анамальныя. Але не толькі гэтым і не столькі гэтым прыцягваюць чытача кнігі Чаргінца. Разам з усім гэтым тут ідзе сур'ёзная размова пра Дабро, якое ўмее абараняцца і ўмее абараняць, болей таго — размова пра Дабро, якое ўмее наступаць і апярэджваць зло. Няхай усяго на секунду, але тую, якая не дае выстралу прагрымець. За секунду да выстралу — гэта не проста словы, гэта не метафара, а жорсткая рэальнасць. Так у жыцці, так і ў рамане.

Няварта засяроджваць увагу на нейкіх канкрэтных эпізодах ці персанажах рамана, — і таму, што твор гэты пэўнай даўнасці (раман надрукаваны ў 1983 годзе), і таму, што ніводзін персанаж не нясе на сабе галоўнай нагрузкі: ні капітан Купрэйчык, ні маёр Алтынін, на маёр Гарчакоў, ні іншыя службовыя і неслужбовыя людзі, якімі даволі густа населены твор. Ніводзін, акрамя лейтэнанта Славіна. Лейтэнант Славін — гэта несумненная ўдача аўтара, хоць па ўзросту свайму і па званню не яму павінна была б «прадпісвацца» галоўная роля, калі б прадпісанне ішло па законах так званай службовай этыкі. Але менавіта яго аўтар паставіў у цэнтр апавядання і менавіта ён — малады, сумленны, поўны сілы і здароўя рызыкант і разам з тым разумны аналітык — з'ўляецца тым непрыкметным сюжэтным вузлом, куды сцягваюцца ўсе ніткі дзеяння, на якім трымаецца і які трымае твор.

Большасць кніг Мікалая Чаргінца першую апрабацыю прайшлі ў часопісе «Нёман», і работнікам рэдакцыі добра вядомы чытацкі інтарэс да твораў і асобы аўтара. Думаецца, тут было тое шчаслівае супадзенне, калі біяграфія дапаўняла цікавасць да твораў, а творы дапаўнялі цікавасць да біяграфіі аўтара, у якой раптам адкрылася новая старонка — Афганістан, а з ёй і раман «Таргар — Чорныя горы».

«Ілоты вар'яцтва» (1995 г.) — дэтэктыўна-прыгодніцкі твор, густа замешаны на элементах фантастыкі. Дэтэктыў і прыгодніцтва — родная стыхія пісьменніка, а паколькі фантастыка — таксама прыгодніцтва, то паварот да яе аўтара-крыміналіста і лагічны, і заканамерны. Разам з тым гэта гаворыць пра тое, што пісьменнік у няспынных пошуках самарэалізацыі, што ён знаходзіцца на новым творчым разбегу.

Ілоты — гэта ў старажытнай Спарце частка насельніцтва, прымусова прывязаная да зямлі, нешта накшталт прыгонных, нявольных, бяспраўных — тых, з кім гаспадары маглі рабіць усё, што хацелі. У рамане такімі людзьмі з'яўляюцца вучоныя, былыя савецкія афганцы, іншая рознанацыянальная чэлядзь, што рознымі шляхамі — дзе хітрасцю, дзе подкупам, дзе пад прымусам трапіла ў сетку Керыма — адыёзнага дзікага чалавека, звар'яцелага на ідэі ўзвысіцца над усімі, над светам, і падпарадкаваць усіх і свет сваёй волі. Падзеі рамана разгортваюцца на мерыдыянах ледзь не ўсяго зямнога шара — Еўропа, Азія, Афрыка, Амерыка; да актыўных дзеянняў падключаны разведвальныя службы вядучых дзяржаў — КДБ, ЦРУ, Масад і інш., і толькі сумеснымі намаганнямі ўдаецца ліквідаваць гэтага небяспечнага для ўсіх спрута.

І другая важная выснова: не бязвольныя і бяспраўныя ілоты — рухавікі жыцця. Жыццё рухаюць антыілоты — людзі валявыя, рашучыя, здольныя на дзеянне і самаахвярнасць. Выснова вечная, але, памножаная на складанасць і драматызм сённяшняга грамадства і ролю кожнага чалавека ў ім, надае раману вострую злабадзённасць і самацэннасць.

**Анатоль КУДРАВЕЦ.**





## ВІНШУЕМ

*Сардэчна віншуем дачку Вольгу і сына Анатоля з в. Тонеж Лельчыцкага раёна з днём нараджэння.*

*Жадаем шчасця, здароўя, радасці і дабрабыту.*

**Сям'я ЯРЭМІЧАЎ.**

*Дарагіх матулю і тату, Аляксандру Ігнацьеўну і Аркадзя Іосіфавіча, віншуем з 40-годдзем сумеснага жыцця. Жадаем шчасця, здароўя, радасці і доўгіх гадоў жыцця.*

**Дачка ДЫДЫЧКА Алёна і зяць Віктар з в. Падбор'е.**

*Віншую з днём нараджэння дарагога сына Генадзя Генадзьевіча СЯРЖАНАВА. Жадаю здароўя, даўгалецця і поспехаў у вучобе.*

**Мама, г. Слуцк.**

*Віншую мамулю, Аляксандру Іосіфаўну ЯРМАШ з Полацка, з 73-годдзем. Здароўя табе, шчасця.*

**Сын Павел.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 31 кастрычніка

### Беларускае тэлебачанне

**10.10** «Тайна Снежнай каралевы». Маст. фільм. 2-я серыя. **11.20** «Востраў натхнення». Тэлеспектакль. **11.50** Госці ў хату. «Добрыя суседзі». **12.20** «Я з табой не развітваюся». Фільм-канцэрт. **12.50** «Не будзіце спячага сабаку». Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі. **15.00** Навіны. **15.10** «Капітан Фракас». Маст. фільм. 1-я серыя. **16.25** «Песня». Мультфільм. **16.35** «Сугучнасць». Перадача з Гомеля. **17.05** «Марсава поле». Музычна-забаўляльная праграма для вайскоўцаў. **17.35** Урокі Наталлі Наважылавай. **18.05** Творцы. Пісьменнік Васіль Малагуша. **18.30** Музычны антракт. **18.40** Эканамікст. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** Рэферэндум: шчырая размова. **19.35** «Трапічная спёка». 6-я серыя. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **2.15** Г. Бяляева і А. Янкоўскі ў мастацкім фільме «Мой ласкавы і пяшчотны звер». **24.00** Навіны. **0.15** «Оскар». Тэлегульня. «Крок». Праграма для моладзі.

### ГРТ

**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». **11.55** «Рускі транзіт». **12.50** «Браты Лю». Мультфільм. **13.15** «Брэйн рынг». **14.00** Навіны. **14.20** «Касмічныя вартаўнікі лейтэнанта Марша». **14.45** Лего-го! **15.10** Цін-Тонік. **15.40** «Элен і хлопцы». **16.05** Рок-урок. **16.30** «Вакол сусвету». **17.00** Навіны. **17.20** «Новая ахвяра». **18.05** Гадзіна пік. **18.30** «Грай, гармонь любімая!» **19.00** «Мая сям'я». **19.45** «Спакойнай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.35** Праграма перадач. **20.40** Фільм «Неба і зямля». **23.15** Навіны. **23.25** «Абоз». **0.15** «Пятніца, 13».

### Расія

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі. **9.50, 23.25** Тавары — поштай. **10.20 — 11.20** «Небяспечны паварот». Маст. фільм.2-я серыя. **16.20** Блак-нот. **16.35** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў. **17.05** Лато-мільён. **17.20** Пецярбургскія сезоны. **17.45** «Цёмная» для Н. Бетанэлі. **18.00** Новае пятае кола. **18.40** Асабліва важныя персоны. **19.30** «Санта-Барбара». **20.30** «Пэн і Тэлер». Забаўляльная праграма. **21.00** Надвор'е. **21.05** «Вандроўнік». Маст. фільм (ЗША). 1-я серыя. **22.00** Лі Страсберг у праграме «Багема». **23.35** Музыка ўсіх пакаленняў. **23.50** Хто на што здатны. **0.05 — 0.30** Не спі і глядзі.

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 14.00, 15.55, 18.55, 23.45** Інфарм ТБ. **12.10** «Партрэт жанчыны». 3-я серыя. **13.10** Тэрмін адказу — сёння. **13.35** Парады садаводам. **13.45, 20.50** Тэлеслужбы бяспекі. **14.15** «Дэмпсі і Мейкпіс». Серыял. **15.05** Мультфільм. **15.15** Фантазія на тэмы кахання. **16.10** Парадоксы гісторыі. «Глухая справа». **16.40** «Інспектар Гэджэт». Мультсерыял. **17.05** Дзіцячае тэлебачанне. «Тры колы, фаліянт і...» **17.35** Паказвае Ленінградская АТК. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Партрэт жанчыны». Серыял (Бразілія). 3-я серыя. **20.20** «Асабістая справа». М. Прусак. **21.05** Спартыўны агляд. **21.15** «Дэмпсі і Мейкпіс». Серыял. **22.05** Падзея. **22.25** «Тэлекампакт». Музычнае шоу. **23.05 — 23.45** Хакей. СКА — «Крылы Саветаў» (Масква).

### НТБ

**7.00, 9.00, 11.00, 13.00** Сёння. **10.30** Маст. фільм «Цудоўныя гады». **11.15** Маст. фільм «Адказны агонь». **12.45** Доктар Вугал. **13.15** Фестываль міні-серыял. Расійскія універсітэты **14.40** Гутаркі аб рускай культуры. **15.20** Жаночы турнір па тэнісу. **16.40** Навіны. НТБ **17.00** Маст. фільм «Дзеці супраць монстраў». **17.30** Праграма для дзяцей. «Вуліца Сезам» **18.00, 21.00, 23.00** Сёння. **18.35** Герой дня. **19.00** Футбол. Кубак кубкаў. **21.35** Фестываль міні-серыялаў. **22.30** Часінка. **23.20** Кіно не для ўсіх. М. ф. «Восем з паловай» (Італія). 8-ы канал **18.00** «К-Відэа» прадстаўляе мультфільм. **18.45** Маст. фільм «Круг сяброў». **20.30** Мультфільм «Ну, пагадзі!» **20.45** Серыял «Дракула». **21.40** Ваша рэклама. **21.45** Навукова-папулярны экран. **22.15** Маст. фільм «Паварот вінта».

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 6960.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12